PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 14 (2082) Год XLI Беласток 7 красавіка 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

Аляксандр Максімюк

## Патока ў агні

**22 мая 1945 года атрад Зыгмунта Шэндзеляжа (Zygmunt Szendzielarz, АКаўскі псеўданім „Лупашка") спаліў вёску Патока — на агульную колькасць каля 100 сядзіб уцалела ўсяго 6-7 будынкаў. У агні загінула трое дзяцей Марыі і Юліяна Гарасімчукаў ды адзін дарослы — Міхал Герасімчук. За адну ноч жыхары Патокі страцілі свае дамы і ўсё нажытае ў жыцці дабро...**

Салдаты ў Патоку прыбылі ў лістападзе 1944 г. і засталіся ў ёй да вясны 1945 г. Войска збірала па вёсках кантынгент. У Патоцы ўвесь час стаялі, кватаруючыся па гаспадарах, некалькі салдат, якія абслугоўвалі кантынгенты з самой Патокі і Тапалян. Раз у тыдзень–два салдаты змяняліся — адны адыходзілі, а іх месца займалі іншыя.

16 мая ў Патоку заехала грузавая машына з дваццаццю салдатамі. Быў у групе адзін афіцэр. Солтыса, якім быў Канстанцін Дамброўскі, у вёсцы акурат не аказалася і салдатаў стаў раскватароўваць Ян Бэкіш — ён быў падсолтысам у Патоцы. Прайшло можа з гадзіну як у Патоку, з боку Геранімова, увайшло *яшчэ адно войска*. Было іх чалавек пад сорак. Спярша яны ішлі вуліцай, але зараз сталі распаўзацца па сядзібах. Афіцэр таго *першага войска* (якое прыехала за кантынгентам) заўважыў гэта і даў загад сваім людзям заняць месцы для абароны. Пачуліся выстралы з абодвух бакоў...

— Яны трывалі нейкае паўгадзіны і ўсё заціхла. Банда падцягнула дапамогу з Геранімова і ўсё пачалося нанава. „Лясныя" заклікалі праз мегафон: „Bracia rodacy, nie brońcie się, złóżcie broń". І вынік свой гэта мела, бо тыя першыя салдаты фактычна перасталі страляць — бараніўся толькі афіцэр, але і яму зараз не хапіла патронаў. Яны, відаць, мусілі быць у той машыне, якой прыехалі і якая стаяла пасярэдзіне вёскі. Афіцэр спрабаваў дабрацца да яе і ў той момант яго цяжка паранілі. Бой спыніўся...

Да афіцэра даскочылі тыя *другія* салдаты і даканалі чаргой з аўтамата. Кацапы, лахудры, камуністы — пачулі жыхары Патокі ад пераможцаў. Яны — пераможцы — вывелі з хаты братоў Малашэўскіх, Яна і Уладзіслава, і некалькі чалавек пагнала іх вуліцай. Прагон гэты цягнуўся нейкіх метраў сто і на гэтым прамежку абодвух братоў да таго пабілі, што іх не мог распазнаць нават той, хто іх добра ведаў. Затым пасадзілі іх пад плот і... два разы перахалі чаргой. Недалёка жыў Ян Бэкіш — яго злапалі на панадворку каля калодзежа і там застрэлілі. 17-гадовы сын Бэкіша бачыў смерць бацькі праз вакно з хаты. Сына застрэлілі ў пасцелі. Пасля ўсяго гэтага забраліся на машыну і ад'ехалі ў бок Геранімова.

— Мне было ў той час дзесяць гадоў. Таго дня я працаваў у Кананьчука ў полі. Мы якраз вярнуліся з поля



паабедаць, калі ў Патоку заехала машына за кантынгентам. Кананьчук жыў на пачатку вёскі, калі глядзець ад Геранімова. Лясныя, уваходзіўшы ў Патоку, мусілі недзе тут пакінуць некалькі чалавек аховы, бо калі ўсе вярталіся на машыне, то ахова выстраліла ў тую машыну — свае выстралілі ў сваіх. Пасля адыходу лясных Кананьчук паслаў мяне на вёску разгледзець, што там сталася. І я пайшоў... Я бачыў целы абодвух Малашэўскіх, якія сядзелі пад плотам. Далей ляжала расцягнутае цела афіцэра, а далей я ўжо пабаяўся ісці.

Забітага афіцэра забрала войска з Беластока, якое ў Патоку з'явілася 17 мая над раніцай. Яны прыехалі расследаваць справу: акрамя забітага афіцэра прапала машына, дваццаць чалавек пайшло ў лес. Войска спрабавала нават правесці аблаву на банду, але выніку ад гэтага не было. Акцыя закончылася ўсяго дакладным перашуканнем Геранімова, якое лічылася гняздом банды.

22 мая на адвячорку банда вярнулася ў Патоку. Было іх пад сотню. Яны ўзялі групу з трыццаці мужчын і пагналі іх праз вёску ў кірунку Геранімова. Запыніліся каля сядзібы Паўла Кулешы. З хаты выйшаў „Лупашка" і зачытаў прысуд. Пачынаўся ён ад кацапаў і здраднікаў польскага народа, а канчаўся „зараз убачыце, як вашы домікі засвецяцца". Прысуд той „Лупашка" ўручыў аднаму з гаспадароў, але ён, мусіць, загінуў ва ўсім тым, што адбылося неўзабаве. Мужчын пагналі далей, за вёску. Загадалі ім пакласціся на зямлю і не варушыцца пад пагрозай смерці. „Лупашка" застаўся ў вёсцы. На сігнал дадзены ім ракетай уся вёска на даўжыні паўтары кіламетра і шырыні двухсот метраў, лічы, у адзін момант занялася агнём.

— Калі банда вярнулася „адпомсціць", быў я ў суседа. Было ўжо каля дзевятай гадзіны. Вечарэла. Яны ішлі пад платамі і чэзлі па сядзібах. Я хутка вярнуўся на свой панадворак. Калі вёска гарэла, мая маці стала выкідаць з хаты ўсё дабро, якое толькі змагла захапіць. Я выскачыў з хаты і стаў выганяць дабытак. Карову з ялоўкай мне ўдалося, але авечкі ўсё вярталіся ў хлеў. Калі ў хляве запаліўся гной, я захліснуўся дымам і ледзь здолеў выкаціцца на панадворак. Маці шмат чаго здолела вынесці з хаты, але ні на што гэта не здалося — забудова была цеснай. Усё гэта стала гарэць на панадворку. Маці толькі паапальвала сабе рукі, што доўгія гады пазней не магла нават самастойна есці. Я, маці і брат, як і іншыя, уцяклі за вёску на агароды, дзе прачакалі ноч...

Патока гарэла ўсю ноч. Агонь бачылі ў навакольных вёсках. У вёсцы

*(працяг на стар. 10)*

**Чытачам „Нівы", якія Вялікдзень святкуюць паводле новага стылю, жадаем спакойнага святочнага адпачынку**

**Рэдакцыя.**

Ганна Кандрацюк

## Вербніца

Вербніца паводле народных вераванняў была святам важным. Разам з вясновымі абраднымі святамі такімі як Благавешчанне, Саракі, Вялікдзень, Радаўніца і Юр'е адзначалася вельмі ўрачыста. Апошнім часам традыцыя занікае. Звязана гэта з выміраннем беларускай вёскі. Праваслаўныя гараджане, нашчадкі беларускіх земляробаў, усё часцей мяняюць Вербніцу на Пальмавую нядзелю, асвячаюць пальмы, якім, дарэчы, не адводзяць асаблівага значэння. Шкада, што прападае гэты непаўторны, арыгінальны абрад. Дапамагаў ён нашым продкам у многім, перш за ўсё ў запашванні жыццёвай энергіі на ўвесь год. Вербніца гэта апошняя нядзеля перад Вялікаднем. Пачынала яна Вялікі тыдзень, у якім кожны дзень авеяны рэлігійнай і народнай сімволікай і містычным чаканнем, спадзяваннем.

Яшчэ дваццаць гадоў таму на Гайнаўшчыне Вербніцу святкавалі старыя і малыя. Галінку лазняку (вярбы чырвонай) вырэзвалі ўжо ў лютым, каб да красавіка развівала лісты і кветкі. Пазней аздаблялі яе каляровымі стужкамі, кветкамі ці бліскучай паперай. Такая вярба імітавала галінкі пальмы, якой віталі ў Іерусаліме Хрыста. Але для беларусаў гэта быў не толькі рэлігійны сімвал. Асвечаная вярба мела абрадавае значэнне. Звычайна, пасля прыходу з царквы гаспадар сцябаў па чарзе ўсіх сямейнікаў, прымаўляючы: „Вэрба б'е, нэ заб'е..." У замове былі таксама моцныя пажаданні, як: „Нэ всікайся, нэ всірайся. Будь здорова як корова".

Падобнай замовай (на Юр'е) выганялі першы раз жывіну на пашу. Вербная лаза захоўвалася ў хаце ўвесь год. Беларусы верылі, што мае яна магічныя ўласцівасці: калі з'есці з яе 9 пупышак, засцеражэ гэта ад зубнога болю і ліхаманкі. Дзяўчаты варажылі па ёй будучага мужа — сцябалі яны незнаёмага хлопца і пыталіся ў яго імя, бо так будзе называцца іх суджаны.

Ці не найбольшую радасць з вярбы мелі дзеці. На Вербніцу дазвалялася падбегчы і пасцябаць кожнага. Дзеці і насілі пераважна па шэсць–дзевяць лазін, гнуткіх і простых, ад маху якіх, быццам ад шаблі, шалясцела паветра.

З Вербніцай звязана таксама народная легенда пра ваду. Людзі верылі, што галінку асвечанай вярбы трэба пасадзіць непадалёк хаты. У час засухі адчыняецца пад такім кустом крыніца. Дарэчы, усе веснавыя абрады цесна павязаны з прыродай. Асаблівая сувязь паміж чалавекам і вадой. У веснавых песнях, агульках, вяснянках безупынна льюцца, б'юцца ручаі, быстрыя рачулкі, рэкі. Веснавыя рэчкі, як вядома,

*(працяг на стар. 10)*

# Мы прачыталі

*Czy w ramach ulgi za zakup przyrządów mógłbym sobie odliczyć wydatki na zakup... konia?* — пытае чытач

Gazety Wyborczej, nr 62

* * *

*Państwo polskie jest przedmiotem konkurencji grup politycznych, w której zwycięzca bierze wszystko.*

Wprost, nr 11

На месцы „сацыялістычнай дэмакратыі” з’явілася дэмакратыя еўраазіяцкая. Мае яна вельмі старыя традыцыі, якія пачаў Чынгісхан у трынаццатым стагоддзі.

* * *

*Białoruś zabrnęła w ślepy zaułek i na gwałt potrzebuje sponsora, który wziąłby ją na swój garnuszek. Międzynarodowy Fundusz Walutowy odmówił jej dalszego kredytowania, a sytuacja kraju jest tragiczna. Nawet w najbogatszej grodzieńskiej obłasti 67 proc. przedsiębiorców zanotowało poważne straty. 67 proc. zatrudnionych przeważnie nie pracowało. Łukaszenko nie ma żadnych pomysłów jak wyjść z tej sytuacji. Naiwnie liczy on, że po zjednoczeniu Białorusi z Rosją ta wyrówna jej wszelkie straty. Z obliczeń ekspertów wynika, że położenie Białorusi stanie się jeszcze tragiczniejsze. Po zawarciu unii celnej z Rosją Białoruś wprowadziła u siebie rosyjskie cła i podatek VAT dla towarów przywożonych z zewnątrz. W efekcie białoruscy inwestorzy zaczęli płacić o wiele drożej za sprowadzane z zachodu surowce, co w konsekwencji spowodowało wzrost cen produktów. Przestały one być konkurencyjne zarówno na rynku białoruskim jak i rosyjskim. Chociaż Rosja sprzedaje nośniki energii po cenach niższych niż koszty produkcji, ale ich odbiorcą nadal jest państwo białoruskie, które odsprzedaje je firmom powyżej cen światowych, by mieć środki na dotowanie indywidualnego odbiorcy. Powoduje to zarzynanie gospodarki.*

Głos, nr 151

* * *

*Za wysoką śmiertelność na drogach odpowiedzialne są wszystkie rządy od początku lat 90., których decyzje polityczne — tzw. ochrona krajowego producenta — uniemożliwiają zakup tanich i bezpiecznych samochodów, i zmuszają nas do wsiadania w blaszane trumny na kółkach — Fiaty 126 p.*

Najwyższy Czas, nr 11

* * *

*Ostrzegamy nauczycieli i kandydatów na nauczycieli z Białegostoku: oprócz gówniany ch zarobków, agresji ze strony coraz bardziej rozwydrzonych bachorów, w każdej chwili grozić wam może wylanie na zbity pysk, jeżeli nawet po godzinach pracy nie będziecie przestrzegać wartości chrześcijańskich.*

Nie, nr 10

Служыць вядучай сіле ніколі не было лёгка.

* * *

*Todor Żiwkow, skazany na 7 lat więzienia za defraudację 10 mln dolarów, który dwukrotnie próbował dołączyć Bułgarię do ZSRR, wiedzie obecnie prym w rankingu bułgarskich polityków.*

Życie Warszawy, nr 61

Калі б жыў Іосіф Вісарыёнавіч, праўдападобна ў дэмакратычным галасаванні выйграў бы ён выбары ў кожнай усходнееўрапейскай краіне, можа за выключэннем Чэхіі. Тутэйшыя народы любяць мець гаспадара.

* * *

*Dylematem inteligenta jest to, że wolno mu dostrzec ciemnotę ludu, ale nie wolno mu mieć jej za złe. Wcześniej ze stwierdzenia ciemnoty wynikała powinność noszenia kaganka oświaty, by lud wydźwignąć. Tradycyjna inteligencja tak rozumiała swoją powinność. Komunizm przetrącił jej kręgosłup, wpędził w poczucie winy i wskazał kierunek w dół, ku ludowi, a rolę przeformułował na służalczą. Ludu nie wolno pouczać, ludowi można tylko służyć.*

Gazeta Wyborcza, nr 64

Грамадскае павышэнне будзе цяпер адбывацца на шляху ад інтэлігенцыі да простанародзя. А пасля, магчыма, зноў наадварот.

* * *

*Czym jest terytorium Wielkiego Księstwa Litewskiego obecnie? W ponad trzech czwartych — Białorusią, w niespełna czwartej części Litwą. A zatem Białoruś jest głównym spadkobiercą tradycji dawnego W. Księstwa. Posiadano tego świadomość, gdy po wybiciu się na niepodległość państwo białoruskie przyjęło Pogoń jako godło państwowe, odrzucone obecnie przez Łukaszenkę na rzecz godła sowieckiego. Bo olbrzymia część tego, co przez wieki nazywano Litwą, była w rzeczywistości ziemią białoruską.*

Najwyższy Czas, nr 11

Цяжка было б з гэтым не пагадзіцца.

* * *

*Najpierw śniadanie, a do tego sake, potem zwiedzanie miasta, zakupy, krótkie spotkanie z miejscowymi VIP-ami. następnie kąpiel w basenie, potem dalej zwiedzanie miasta i wreszcie kolacja — oczywiście znów sake. Tak wyglądał rozkład pracowitego dnia marszałka Senatu Adama Struzika bawiącego niedawno w Japonii. W ciągu ostatnich miesięcy marszałek Struzik odwiedził oprócz wspomnianej Japonii Chiny, Mongolię, Egipt, Kuwejt, Tajlandię, Laos i Wietnam. W najbliższych dniach wybiera się do Brazylii, Chile i Peru, gdzie spotka się ze swoim bratem misjonarzem.*

Polityka, nr 11

Такая колькасць выпітай сакэ можа пашкодзіць вашаму здароўю, спадар маршалак!

# З мінулага тыдня

**Антыпрэзідэнцкая дэманстрацыя**, якая адбылася ў Менску 24 сакавіка, змяшчала і польскія акцэнты. На мітынгу выступіў адзін з лідэраў Канфедэрацыі незалежнай Польшчы **Кшыштоф Круль**, які заахвочваў грамадзян Беларусі да стойкасці ў абароне свабоды краіны. Прамоўца запэўніваў мітынгуючых, што палякі падтрымоўваюць беларусаў у гэтым змаганні. У дэманстрацыі прымала таксама ўдзел група студэнтаў-беларусаў з Беласточчыны, якія вучацца ў вышэйшых навучальных установах Беларусі.

**У Гродне** працягваецца канфлікт паміж Саюзам палякаў у Беларусі і бацькамі дзяцей, якія з верасня г.г. маюць вучыцца ў першай польскай школе ў гэтым горадзе, пабудаванай за грошы польскіх падаткаплацельшчыкаў. Прычына канфлікту — разыходжанні бакоў у справе назначэння дырэктара школы. Бацькі пратэстуюць супраць прапанаванай гарадскімі ўладамі і адобранай Саюзам палякаў кандыдатуры ды пішуць пратэсты і высылаюць дэлегацыі са скаргамі ў... Варшаву. **Эва Цывіньска** — старшыня Падляшскага аддзела Таварыства „Wspólnota Polska” ў Беластоку, заявіла: „Пан маршалак Анджэй Стэльмахоўскі (старшыня „Wspólnoty Polskiej”) размаўляў з Тадэушам Гавіным (старшынёю Саюза палякаў) і прыняў у Варшаве групу бацькоў. Іх расказы былі жахлівыя. Гавін не кансультаваў ніякай кандыдатуры на пасаду дырэктара польскай школы, хаця яна будуецца за грошы польскага падаткаплацельшчыка, падобна як Дом польскі ў Гродне, дзе змяшчаецца сядзіба ГП СПБ”.

Спадкаемцы апошняга ўладальніка часткі будынкаў **Супрасьльскага манастыра** падалі апеляцыю ў Вярхоўны Адміністрацыйны Суд на рашэнне Управы Рады Міністраў аб перадачы манастырскіх збудаванняў **Праваслаўнай Царкве**. На практыцы гэта абазначае адтэрмінаванне выканання рашэння. Адзін са спадкаемцаў выказаўся, што яны гатовы былі б адмовіцца ад сваіх правоў на ўласнасць, калі б Касцёл і Царква паяднаяліся і стварылі супольны экуменічны фонд.

**Тры карціны Лявона Тарасэвіча** экспанаваліся на калектыўнай выстаўцы польскага сучаснага жывапісу „Мастацтва і натура” ў нямецкім горадзе **Людвігсгафен**. У выстаўцы прымалі таксама ўдзел палотны Марка Хлянды, Тамаша Цяцерскага, Стэфана Гяроўскага, Тэрэсы Мурак, Гжэгажа Пабэля і Іаанны Пшыбылы.

**Краёвы камітэт Еўрапейскай кампаніі моладзі супраць расізму, ксенафобіі, антысемітызму і нецалерантнасці**, улічваючы мнoганацыянальнасць і шматкультурнасць Падляшша, пачаў у Беластоку цыкл сустрэч, прысвечаных правам чалавека і еўрапейскім канвенцыям, якія маюць гарантаваць гэтыя правы. Восенню гэтага года камітэт плануе арганізаваць у Беластоку канферэнцыю з удзелам прадстаўнікоў Савета Еўропы на тэму „Роля і ўдзел нацыянальных і этнічных меншасцей у працэсе еўрапейскай інтэграцыі”.

**Sacrum у вясковай хаце Падляшша** — так называецца выстаўка, якая адкрылася 20 сакавіка ў Сельскагаспадарчым музеі ў Цеханоўцы. Экспазіцыя налічвае больш за 500 прадметаў рэлігійнага культу, звязаных з найбольшымі веравызнаннямі Падляшша — каталіцызмам і праваслаўем. Асобную групу складаюць экспанаты праваслаўнага характару. Можна тут паглядзець багатую калекцыю ікон, у тым ліку ўпрыгожаных ручнікамі і памешчаных у ківотах.

**Вуліца Гагарына** ў Беластоку, рашэннем Гарадской рады ад 25 сакавіка г.г., перайменаваная на **Алею Салідарнасці**.

## Неўзабаве ў „Ніве”

- **Размова з Яго Блажэнствам мітрапалітам Васіліем.**
- **Уражанні палескага беларуса ад пабыўкі ў Беластоку.**
- **Беларусы і японцы ў вачах Мікалая Сулімы з Гайнаўкі.**

# Весткі з Беларусі

**Саюз з Расеяй**

Дагавор аб стварэнні саюзнай дзяржавы будзе падпісаны Расеяй і Беларуссю 2 красавіка гэтага года. Гэта паведаміў у Маскве журналістам пасля завяршэння перамоваў з прэм’ер-міністрам Віктарам Чарнамырдзіным беларускі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Паводле слоў Лукашэнкі, рашэнне аб стварэнні саюзнай дзяржавы, у якой будзе дзейнічаць выканаўчы камітэт і найвышэйшы ці вярхоўны савет, куды ўвойдуць прэзідэнты і прэм’еры дзвюх краін, было прынята па выніках яго перагавораў з Барысам Ельцыным ад 22 сакавіка.

**Патрыятычная заява**

Нацыянальны арганізацыйны камітэт па святкаванні 78-ай гадавіны абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі выступіў з заявай. „Наш народ перажыў генацыд, панёс велізарныя чалавечыя, духоўныя і тэрытарыяльныя страты, — гаворыцца ў ёй, — аднак справа 25 Сакавіка не загінула, таму што нельга жыць без свабоды”. Прадстаўнікі аргкамітэта павіншавалі грамадзян рэспублікі са святам, а таксама запрасілі ўзяць удзел у масавым шэсці і мітынгу 24 сакавіка. Пад заявай стаяць подпісы вядомых беларускіх палітыкаў і дзеячаў культуры, сярод якіх старшыня аргкамітэта Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Станіслаў Багданкевіч, Зянон Пазьняк, Мечыслаў Грыб, Аляксандр Дабравольскі, Генадзь Карпенка і іншыя.

**Антыпрэзідэнцкая дэманстрацыя**

Урачыстасці прымеркаваныя да 78-ай гадавіны абвяшчэння БНР, якія адбыліся 24 сакавіка ў Менску, ператварыліся ў дэманстрацыю супраць спробы далучэння прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам Беларусі да Расеі. 30 тысяч мянчан пад бел-чырвона-белымі сцягамі патрабавалі адыходу прэзідэнта і збіралі яму грошы на білет у Маскву. 25 сакавіка І праграма беларускага радыёвяшчання, інфармуючы ў перадачы „Радыёфакт” пра гэтую падзею, абышла маўчаннем патрабаванні дэманстрантаў. А вось поўны тэкст гэтага паведамлення: „Учора прадстаўнікі шэрагу правацэнтрысцкіх партый і рухаў правялі ў Менску мерапрыемства, прымеркаванае да 78-х угодкаў абвяшчэння незалежнасці БНР. Пачалося яно шэсцем з плошчы Незалежнасці. Каля адзінаццаці гадзін раніцы яна была ацэплена міліцыяй, таксама быў перакрыты выхад на яе з метро. Гарадскія ўлады не далі дазволу на правядзенне якіх-небудзь акцый на плошчы, а прапанавалі правесці мітынг каля Тэатра оперы і балета. Аднак на пачатку дванаццатай гадзіны натоўп людзей прарваў міліцэйскі кардон і выйшаў на праспект Скарыны. Усе далейшыя спробы міліцыі спыніць людскі паток аказаліся безвыніковымі. Амаль на гадзіну галоўная магістраль сталіцы аказалася паралізаванай. Каля шасці тысяч чалавек, па ацэнках міліцыі, прыйшло ў гадзіну дня на плошчу Парыжскай камуны перад Вялікім тэатрам оперы і балета. На мітынгу прысутнічалі і выступілі дэпутаты Вярхоўнага Савета, прадстаўнікі шэрагу палітычных партый, а таксама творчая інтэлігенцыя. Прыехаўшы на мітынг мэр Менска Уладзімір Ярмошын ацаніў сітуацыю, якая склалася, і паведаміў нашаму інфармацыйнаму агенцтву, што за ўчыненыя беспарадкі будуць адказваць арганізатары гэтага мітынгу”.

**Фільм аб Ларысе Геніюш**

На кінастудыі „Беларусьфільм” скончана праца над мастацкай кінастужкай „Птушкі без гнёздаў”. Зняў фільм Віталь Дудзін. Карціна расказвае аб лёсе паэткі Ларысы Геніюш — ад’езд і вяртанне на Радзіму, блуканні ў час вайны, гулаг. Двойчы, і ў тым ліку ўжо ў 90-х гадах, разглядала справу Геніюш пракуратура, але ў рэабілітацыі было адмоўлена. Незалежна ад асобы і лёсу Геніюш адбілася і на адносінах да фільма. Хутка і спецыялісты, і простыя гледачы змогуць сфарміраваць уласны пункт гледжання наконт гэтага. На думку рэжысёра, ідэя фільма наспела і ў рэспубліцы, і ў грамадстве.

**Замена рэдактара**

Указам прэзідэнта Беларусі ад 18 сакавіка № 103 Мікалай Галко вызвалены ад пасады галоўнага рэдактара „Народнай газеты” ў сувязі з неадпаведнасцю выконваемай рабоце. Прэзідэнт Беларусі указам № 104 прызначыў Міхаіла Шыманскага выконваючым абавязкі галоўнага рэдактара „Народнай газеты”. Пытанне аб яго прызначэнні будзе яшчэ разглядацца Вярхоўным Саветам.

# Мілейчыцкія будні

**Мілейчычы — адно з гістарычных мястэчак Падляшша, якое за пяць стагоддзяў пісанай гісторыі перажывала перыяды і росквіту, і заняпаду. Страціўшы гарадскія правы пасля I сусветнай вайны, да сённяшняга дня выконваюць яны ролю гміннага цэнтра. I хаця карэнныя мілейчукі памятаюць, што яны мяшчане, а навакольныя сяляне да гэтай пары ездзяць „до міеста", ад местачковасці засталіся толькі нешматлікія помнікі і рынкачная плошча. Штодзень жыхароў і гмінныя ўлады турбуюць перш за ўсё сялянскія справы.**

### У новай рэчаіснасці

Разам з падзеннем сацыялістычнага парадку ўпалі і гмінныя прадпрыемствы. Не працуе ўжо ад некалькіх гадоў кафлярня, а пабудаваны ў шасцідзесятых гадах двухпавярховы заводскі цэх пустуе ды напамінае аб кафлярскай традыцыі, якую ў міжваенны перыяд прынёс туды яўрэй Горфайн — уладальнік двух керамічных заводаў. Трымаюцца яшчэ Гмінная спулдзельня і Спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў, аднак без перспектывы на буйны росквіт. Абодва кааператывы, пазбаўленыя колішняй дзяржаўнай падтрымкі ў выглядзе датацый і танных крэдытаў, абмежавалі свой персанал і дыяпазон паслуг да неабходнага мінімуму і цяпер, здаецца, выбіваюцца з сіл. У ГС вырасла канкурэнцыя — з'явіліся прыватныя прадуктовыя крамы. СКР, карыстаючыся рэшткамі машыннага парку, будуе і рамантуе гмінныя гравійкі ды выконвае некаторыя паслугі сялянам.

### Назіранні доктара Пакалюка

Лекар ветэрынарыі **Ян Пакалюк** працуе ў Мілейчычах больш за дваццаць гадоў. За гэты час пазнаў ён амаль усіх жыхароў навакольных вёсак не толькі ў Мілейчыцкай, але і ў суседніх гмінах. Зараз вядзе ён прыватны ветэрынарны пункт (іх у Мілейчычах два) дык як ніхто іншы мае магчымасць на штодзень назіраць за працэсамі ў вясковым асяроддзі.

— Цяпер на вёсцы назіраюцца дзве адмоўныя з'явы: абязлюдзенне і заняпад жывёлагадоўлі, — кажа доктар Ян Пакалюк. — За апошнія два—тры гады я не заўважыў, каб нехта будаваў гаспадарчыя будынкі. Проста сяляне баяцца браць банкаўскія крэдыты.

Фінансавае становішча вёскі — нялёгкае, а рэгулярны прыток наяўных грошай гарантуюць сялянам перш за ўсё штомесячныя выплаты за прададзенае малако і... пенсіі. Сяляне шкадуюць грошай на прафілактыку. Яна цяпер платная, а толькі акцыі па выяўленні некаторых захворванняў кампенсуюцца дзяржаўным бюджэтам, напрыклад барацьба з туберкулёзам, бруцэлёзам ці лейкеміяй. Таксама малочныя заводы кампенсуюць у 40% кошты некаторых ветэрынарных паслуг сваім контрагентам. Найчасцей ветэрынара выклікаюць у выпадку крайняй неабходнасці, напрыклад, да складаных родаў, калі селянін без дапамогі лекара сам не справіцца.

— Нярэдка бывае і так, што чалавек не мае чым заплаціць за ветэрынарную паслугу, — расказвае доктар Ян Пакалюк. — Я разумею гэтую сітуацыю і ў мяне заўсёды бывае па дваццаць—трыццаць даўжнікоў. Разлічваюцца яны са мною сумленна як толькі атрымаюць пенсію або грошы за малако.

### А жыхароў штораз менш

У Мілейчыцкай гміне пражывае зараз 2 760 чалавек і лік гэты з кожным годам падае. Напрыклад, колькасць жыхароў у 1995 годзе ў параўнані з 1994 паменшылася на 55 чалавек. Кіраўнік ЗАГСа **Андрэй Юрчук** у якасці красамоўнага прыкладу прыводзіць вёску Мядзвежыкі, у якой няма ўжо дзяцей у школьным узросце і ў якой у мінулым годзе не зарэгістравана ні шлюбаў, ні хрысцін, а толькі адны пахаванні. А ва ўсёй гміне ў мінулым годзе нарадзілася 32 дзяцей, пажанілася 13 пар і памерла 60 чалавек. Адмоўныя дэмаграфічныя працэсы, якія пачаліся тут у 50—60-х гадах, давялі да таго, што дзеці з усёй гміны вучацца ў адной толькі школе ў Мілейчычах. Пабудаваны ў Рагачах у рамках акцыі „Тысяча школ на тысячагоддзе Польскай Дзяржавы" школьны будынак і двухкватэрны дом для настаўнікаў ужо некалькі гадоў пустуюць і нішчэюць.

### Асветныя клопаты

З пачаткам гэтага года школьніцтва апынулася ў распараджэнні самаўрадаў, што прыбавіла дадатковых, перш за ўсё фінансавых, клопатаў гміннай адміністрацыі. Войт Мілейчыцкай гміны **Мікалай Блашчук** турбуецца, што не хапае яму для правільнага функцыянавання школы 2,5 млрд. ст. зл., у тым ліку 1,7 млрд. на зарплаты настаўнікам. У міністэрскай субвенцыі не ўлічаны кошты апалу, электраэнергіі, давозу дзяцей, заступленняў. Алгарытм, паводле якога налічвалася субвенцыя, дастасаваны быў перш за ўсё да магчымасцей дзяржаўнага бюджэту, а не да сапраўдных коштаў утрымання школ на месцах. Мілейчыцкая школа — адна з самых дарагіх школ у ваяводстве (займае чацвёртае месца), калі браць пад увагу кошты на адно дзіця. Прычынай гэтаму з'яўляюцца малая колькасць дзяцей у паасобных класах, разбудаваная кухня і святліца, а таксама і тое, што большасць навучэнцаў (каля 140 дзетак) трэба звазіць з тэрыторыі ўсёй гміны. Два старыя школьныя аўтобусы, якія што і раз рамантаваць даводзіцца, штодзень праязджаюць 200 км. У школьным транспарце апрача двух шафёраў заняты яшчэ два апекуны юных пасажыраў.

Самой гміне не пад сілу самастойна фінансаваць школьніцтва. Нават калі б спыніць усе інвестыцыі, атрымалася б з гэтага толькі 500 млн. ст. зл. Плывуць тады прашэнні ў міністэрствы фінансаў і нацыянальнай адукацыі ды ў кураторыю асветы аб дадатковыя фінансавыя сродкі і хаця адказаў пакуль што няма, дык ёсць спадзяванні, што зверху нешта падкінуць.

Невядомая таксама будучыня дзіцячага садка. Калі гмінныя ўлады ўстанавілі новыя месячныя аплаты — 300 тыс. ст. зл. за адно дзіця ў малодшай групе і 150 тыс. у нулявым класе — бацькі пачалі адмаўляцца плаціць. Магчыма, што трэба будзе ліквідаваць прадшколле, а нулявы клас уключыць у школьную структуру.

### Сціплыя інвестыцыі

Як вядома, большасць клопатаў бярэцца з нястачы грошай. Мала іх у гміннай казне. Але адкуль іх узяць, калі ў гміне глебы V i VI класаў ды нізкія падаткі. Таксама адносна невялікая колькасць насельніцтва мае адмоўны ўплыў на велічыню дзяржаўнай субвенцыі. З гэтай прычыны гмінныя інвестыцыі зводзяцца да неабходных рамонтаў. У рамках інвестыцый пабудаваны апошнім часам дарога Левашы — Баравікі і два масты, аднаўлены дарожныя знакі, пракладзены тратуар на Заблоцкай вуліцы, адрамантаваны пажарныя дэпо ў Мілейчычах, Сабятыне і Рагачах. У сувязі з тым, што мілейчыцкая пажарная каманда ўключана ў Краёвую сістэму процівпажарнай аховы, праводзіцца мадэрнізацыя пажарнай машыны. Для гэтай мэты з гміннага бюджэту адведзена 220 млн. ст. зл., а 90 млн. перадаў Ваяводскі саюз пажарных камандаў.

Інвестыцыйныя планы могуць праваліцца з прычыны... сёлетняй зімы. Войт гміны турбуецца, што гміне прыйдзецца рамантаваць водаправодную сетку, паколькі ў канцы лютага вада замерзла ў 80% карыстальнікаў. Памер страт учыненых марозам будзе можна ацаніць вясною, калі размерзне паўтараметровы слой зямлі. Тады таксама стане вядома, колькі грошай трэба будзе расходаваць гміне, а колькі карыстальнікам і як гэта адаб'ецца на гмінным бюджэце. А ў найбліжэйшых планах прадугледжаны будова звалкі ў ваколіцы Нурца-Вёскі (гміна атрымае 30% датацыі) і добраўпарадкаванне пляца вакол былой сінагогі (атрымалі 30 млн. з Аддзела культуры Ваяводскай управы па прапанове ваяводскага рэстаўратара помнікаў).

### „Клапатлівы" помнік

У цэнтры Мілейчыч красуецца будынак колішняй яўрэйскай бажніцы. Узведзеная ў канцы 20-х гадоў нашага стагоддзя сінагога, пасля вайны стала выконваць ролю культурнай установы. Змяшчаліся ў ёй кіно, глядзельная зала і бібліятэка. Не рамантаваную дзесяцігоддзямі аграмадную будыніну давялося ў канцы закрыць. Капітальны рамонт бажніцы і яе перабудова на гмінны цэнтр культуры планаваліся ўжо ў сямідзесятых гадах, але ажыццяўленне гэтых планаў пачалося толькі ў канцы васьмідзесятых. Рамонт з-за нястачы грошай прыйшлося спыніць. Войт Мікалай Блашчук мае жаль да папярэдняй рады, што пераняла сінагогу на гмінную ўласнасць, паколькі цяпер няма ніякіх рэальных шанцаў адрэстаўраваць за свой кошт гэты будынак. Сёння не дазваляецца сакральныя аб'екты прызначаць на публічную нерэлігійную дзейнасць, а на яўрэйскія арганізацыі і фонды таксама разлічваць нельга. У такой сітуацыі гміне засталося толькі забяспечыць будынак, павесіць на ім мемарыяльную дошку і навесці парадак вакол „клапатлівага" помніка.

**Віталь Луба**

## Развітанне

Памяці Галі Хмялеўскай

*Заўсёды так здараецца ў народзе:*
*Чарговае няшчасце мае зноў.*
*Найлепшыя заўчасна адыходзяць,*
*Найлепшыя ў сям'і, сярод сяброў.*
*Яшчэ Ты, Галя, жыць магла б на свеце*
*І цешыцца раз дадзеным жыццём.*
*Не асталіся б добры муж і дзеці,*
*І твае ўнукі, і Твой цёплы дом.*
*Унукаў, Галя, не прытуліш болей*
*Да змучаных жыццём сваіх грудзей.*
*Ласкі Тваёй ім не пачуць ніколі,*
*А як жа ты любіла ўсіх дзяцей!*
*Ты адыходзіш, Галя, нечакана*
*Развітваешся назаўжды з сям'ёй.*
*Ты пакідаеш нас з душэўнай ранай,*
*З тугой страшэннай, Галя, за Табой.*
*Табе заўчасна смерць забрала сілы,*
*Спыніла сэрца вернага біццё.*
*Да цёмнай адыходзіш Ты магілы,*
*Становішся зямным Ты небыццём.*
*І будзеш жыць Ты толькі ў нашых сэрцах,*
*І ў памяці, і ў думках, і ў журбе,*
*Пакуль не давядзецца нам памерці,*
*Пакуль Бог не пакліча да Цябе.*
*У нашых сэрцах поўна болю, жалю,*
*Свой пакідаеш назаўжды парог.*
*Бывай, бывай нам, Дарагая Галя,*
*Няхай Цябе ў апецы мае Бог.*

***Віктар Швед***

Многапаважанаму
Сп. **Міхасю Хмялеўскаму**
самыя глыбокія
спачуванні
з прычыны заўчаснай смерці
**жонкі ГАЛІ**
— перасылае
Хор з Гарадка.

Сябру
**Міхасю Хмялеўскаму**
словы шчырага спачування
з прычыны
напаткаўшага Яго гора —
**смерці Жонкі**
— выказваюць
Грамадскі камітэт
пабудовы Беларускага музея
і Гайнаўскі аддзел БГКТ.

Сябру
**Васілю Сакоўскаму**
словы шчырага спачування
з прычыны
напаткаўшага Яго гора —
**смерці Маці**
— выказваюць
Гайнаўскі Аддзел БГКТ
і Грамадскі камітэт
пабудовы Беларускага музея
ў Гайнаўцы.

## Гадуюць карпаў

Цяпер на Гайнаўшчыне рыбныя ставы маюць 230 гаспадароў. Штогод прыбывае 50 такога роду штучных вадаёмаў, у якіх гадуюць перш за ўсё карпаў. Такая зараз мода. Рыбныя ставы — дадатковая крыніца даходаў па-за сельскай гаспадаркай, ды і форма адпачынку.

Як палічылі, у адной толькі Кляшчэлеўскай гміне ёсць ужо 60 свежавыкапаных ставаў. **(яц)**

# Пашана для традыцыі

**У асаблівы спосаб прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ўшанаваў 78 гадавіну Дня Незалежнасці Беларусі. Падчас пабыўкі ў Маскве, напярэдадні 25 сакавіка заявіў ён, што ўсе дакументы для аб'яднання Беларусі і Расеі ўжо гатовы. Паінфармаваў ён таксама, што будуць яны падпісаны 2 красавіка. Сэнсоўным было б, каб учынена гэта было дзень раней.**

Незалежнасць Беларусі два гады бараніді самі расейцы, адкідаючы намаганні Лукашэнкі на „інтэграцыю" з Расеяй. Гэта рэдкі выпадак у гісторыі свету, каб кіраўнік дзяржавы „на каленях" прасіў суседзяў далучыць сваю краіну да іх тэрыторыі. Каб даказаць, што люд беларускі падзяляе палітычную лінію свайго прэзідэнта, Лукашэнка сарганізаваў своеасаблівы рэферэндум. Паказаў ён усім скептыкам, што паміж уладай і масамі наконт незалежнасці Бацькаўшчыны няма ніякіх разыходжанняў. Паўтара мільёна галасуючых інакш гэта толькі дваццаць працэнтаў выбаршчыкаў, якіх, паводле логікі камуністычнага разумення дэмакратыі, спакойна можна было праігнараваць. Яшчэ да рэферэндуму „бацька" даказаў, што ніякага супрацьстаяння да яго стратэгічнага выбару талераваць не будзе. Пераканаліся ў гэтым дэпутаты ад апазіцыі, калі ў красавіку мінулага года паспрабавалі пратэставаць супраць надыходзячай дыктатуры. Узброеная арда прэтарыянцаў Лукашэнкі акрэсліла тады асноўны напрамак ягонай палітыкі. Неўзабаве з'явілася цэнзура, пастаяннае ігнараванне законаў, расейскія афіцэры ў цэнтральных органах улады і парламенцкія выбары, якіх логікі ніхто ў свеце не мог зразумець.

Доўгі час намаганні Лукашэнкі аставаліся безвыніковымі. Гаспадары Крамля, далікатна кажучы, з дыстанцыяй ставіліся да палітыкі дырэктара саўгаса. Але ў канцы прыйшлі дні вялікай хвалы прэзідэнта Беларусі. Выдатна паспрыяла яму пастанова, здамінаванай камуністамі і нацыяналістамі, расейскай Думы аб аднаўленні Савецкага Саюза. Хаця рашэнне парламента Расеі мела перш за ўсё прыдбаць мільёны галасоў у прэзідэнцкіх выбарах кандыдату камуністаў Зюганаву, яго галоўны канкурэнт Ельцын не мог да гэтага факту паставіцца абыякава. Прэзідэнт Расеі вырашыў паказаць на практыцы, што менавіта гэтым шляхам ідзе яго палітыка. Выклікаў ён тады Лукашэнку ў Маскву і дазволіў яму падпісваць усялякія дакументы ды распавядаць журналістам з усяго свету аб роўнасці Беларусі і Расеі ва ўзнікаючай канфедэрацыі.

Ці абазначае гэта канчатковае вырашэнне беларускай праблемы ў Еўропе? Шмат залежыць ад вынікаў прэзідэнцкіх выбараў у Расеі. Паслядоўнасцей выйгрышу Зюганава цяжка прадбачыць. Калі прэзідэнтам надалей будзе Ельцын, можна спадзявацца, што расейска-беларускіх дамоваў ніхто на Крамлі ўсур'ёз разглядаць не будзе. Такая „інтэграцыя", аб якой задумаў Лукашэнка, каштавала б расейскую гаспадарку пару дзесяткаў мільярдаў долараў. І толькі ніякія бальшавікі маглі б у гэтай справе не ўлічваць такога фактару як грошы. Цяпер толькі ў выніку рэалізацыі мытных пагадненняў Беларусь, абараняючы расейскі рынак, траціць больш чым выдае на пакупку нафты. Чаму ж у будучыні мела б быць інакш?

24 сакавіка на вуліцах Менска з бел-чырвона-белымі сцягамі выйшла каля 30 тысяч жыхароў сталіцы Беларусі. Сталася нешта незвычайнае — беларусы адчулі сябе грамадзянамі свае краіны і аб'явілі свету, што лёс Бацькаўшчыны ім не абыякавы. Гэта мяняе палітычную сітуацыю ў Беларусі.

**(рэд.)**

# Занатоўкі беластоцкага беларуса

*(фрагмент)*

Мне пад трыццаць. Ніколі не спадзяваўся, што ў сваіх думках нечакана звярнуся да вайны і чалавечага цярпення. Вайна для маіх дзядоў скончылася пад канец саракавых гадоў, калі ў іхнія хаты, пераважна ноччу, перасталі заходзіць „жолнежэ Польскі подземнэй", якія найчасцей любілі добра натрапаць „рускія морды", а пры нагодзе пакарыстацца салам, самагонкай і на дарогу прыхапіць нешта з вопраткі ці з абутку. Для маіх будучых бацькоў, схаваных у такі момант у склепе пад печкай, завяршаўся час, калі перасталі быць дзецьмі, а станавіліся падлеткамі. Іхнія вочы напаткалі ўжо відовішчаў, ад якіх жудасна рабілася пад сэрцам, а душамі авалодваў пранізлівы страх. Страх, які не ўдалося перамагчы да гэтага дня.

*Страх — за праўду кінуцца ў бой,*
*Страх — не дагадзіць акупанту,*
*Быць удома самім сабой,*
*Чалавекам быць — страх пракляты.*

Так пісала Ларыса Геніюш. Пакаленне маіх бацькоў не ведае прозвішча паэтэсы, затое надта добра памятае слова „хавайся!" У іх не было аніякіх спрыяльных умоў, каб спазнаць асалоду ад ведання нацыянальнай літаратуры. Сталіся яны заложнікамі і ахвярамі палітычных ветраў, якія круцілі Беласточчыну. Мо, таму мае бацькі не любяць слова *палітыка*, і больш спагады, разумення будзе для тых, хто ў турму трапляе за пакражу сяцi забойства, а не для тых, што сядзяць за „политику"... У генатыпе майго пакалення надалей запісаны страх.

Зачараванае кола ахвяраў і катаў. Вяртанне да вайны і яе месца ў літаратуры. Без войнаў літаратура была б толькі надзьмутай і п'янай бурбалкай, каб не магчымасць сачыць і апісваць лёсы пакрыўджаных і іхніх жывадзёраў. Гэта страшная праўда мне асабіста адкрылася зусім нядаўна. І яшчэ адна, зусім новая для мяне канстатацыя: добрая ваенная літаратура пра чалавечае цярпенне была створана ахвярамі, а не катамі. Ці ж каты не могуць нічога сказаць наконт чалавека і ягонага лёсу? Ці сярод іх не было людзей, адораных схільнасцю да літаратурнай рэфлексіі, якую можна было б перанесці на паперу? Яны ж на ўласныя вочы бачылі, якім слабым і неадпорным на боль з'яўляецца чалавечае цела, маглі назіраць аж да ўласнае стомленасці, як хвіліна па хвіліне знікаюць аксіёмы, прыпісаныя выключна годнасці людскога роду. Яны ж, у прыватнасці, былі часта гледачамі тэатральных і музычных залаў, некаторыя з іх любілі засесці за раялем ці ўзяць у рукі скрыпку. Але чаму не былі здольнымі запісаць у паэтычнай форме гукі неўтаймаванага цярпення? Жанрам, у якім некаторыя здолелі вывіцца, былі дзённікі. Дзённікі, поўныя сухіх радкоў аб здзеках ці расстрэлах, але амаль без аніякага асэнсавання чалавечага лёсу. Кату не трэба разумець ахвяру; ахвяра з надзеяй на выратаванне заўсёды хоча пабачыць у злачынцы хаця б праменьчык звычайнай спагадлівасці. І таму літаратуру ствараюць пакрыўджаныя, жывадзёры проста яе чытаюць...

Яўген **Вапа**

*(„Бярозка", н-р 2, 1996 г.)*

# Успаміны Яна Грыгарука

**Ян Грыгарук, жыхар Трасцянкі, народжаны ў 1903 годзе, успамінае бежанства, санацыйны перыяд і жахлівы час II сусветнай вайны.**

У бежанства наша сям'я падалася ў 1915 годзе, калі я ўжо быў школьнікам. Ехалі фурманкамі ў Баранавічы цераз Слонім. Выехала амаль уся вёска, так як і большасць навакольных, у якіх пражывалі праваслаўныя; католікі не выязджалі. З суседняй вёскі Анцуты, каталіцкай, не выехаў ніхто. У Трасцянцы засталіся толькі дзве сям'і, праваслаўныя. Бежанцы вялі з сабою ўвесь дабытак — былі там у нас і конь, і карова — кармілі яго ў дарозе травою, бо было лета. Каля Баранавіч дабытак пакінулі ў полі, пасля папаў ён немцам. А нас поездам завезлі ў раён Барысаглебска, у вялікую вёску Лабухі, у якой пражывала больш за тысячу гаспадароў. Было многа бежанцаў, усе яны былі з Гродзенскай губерні. У Лабухах жылі мы ў дыякана. Аднойчы зімою пайшоў тата разбіваць лёд на рэчцы, прастудзіўся, захварэў. Вырас гуз у горле і тата памёр. Неўзабаве памерлі мама і сястра, ад тыфу. Астаўся толькі я адзін. Рашыў вяртацца на радзіму, бо ў Расеі рабілася ўжо неспакойна. Прыехаў поездам, якім рускія везлі на захад нейкія машыны. Даехалі да Юзафова, бо далей палякі разабралі чыгунку і наступіла крушэнне поезда. Палякі з лесу застрачылі па нас. З Беластока прыехаў бранявік і засек па кустах, стала ціха.

Дабраўся я да Трасцянкі. Хата старая. Калі мы адсутнічалі жыў у ёй дзед, з Васькоў, які ў бежанства не паехаў. Прыстаў да бабы і жылі ў нашай хаце. Я ўжо аднак дзеда не застаў, памёр перад маім вяртаннем. Асталася па ім толькі адна каробка, бо рэшту бежанцы, якія раней вярнуліся, разабралі. Ды і тая стаяла ўжо ў каморцы, бо нейкія жулікі хацелі яе зарэзаць. Пасля ў нашай хаце крыху жыў дзядзька, але пайшоў у сваю хату. Другі бацькаў брат вярнуўся з Варшавы, дзе быў паштальёнам. Чаму ён вярнуўся — не ведаю. Потым ажаніўся і адышоў таксама.

Як настала Польшча, на царкоўнай зямлі пасяліліі асаднікаў. Чатырох іх было. Адзін з іх называўся Самсаль. Тыя дасталі па паўучастку зямлі, а Самсаль то вельмі многа ўзяў. Жылі мы з імі добра, бо добрыя людзі з іх былі, толькі адзін Самсаль, калі наша быдла дзе яму ў шкоду ўлезла, забіраў тое быдла да сябе ў хлеў і дамагаўся ад нас грошай. Быдла мы выпасалі на пасвіску, што каля сенажацяў было; там жа жылі і асаднікі. Пасля сенакосаў то і на лонцы паслі тыдзень-два але потым пакідалі на атаву. Аднойчы Самсаль адвёў частку свайго пасвіска для бычкоў, што жыдам меў прадаць, трава там такая добрая расла. То нашы хлопцы туды ноччу коней завялі і паслі. А ён жа па начах хадзіў і пільнаваў, і да іх. То яны да яго! Але не пабілі. То зноў калі, бывала, нашы бычкі, такія бадлівыя, ён забіраў, калі яму ў авёс лезлі, то тады нашы хлопцы частку таго аўса яму скасілі. Ну, то ён крыху ўспакоіўся. А калі прыйшлі саветы, то частка нашае вёскі згарэла. А ў Самсаля стагі са збожжам стаялі. То саветы тым пагарэльцам сказалі, каб ехалі і тое яго збожжа бралі. Тады тыя асаднікі ў Беласток выехалі і там сабе занятак знайшлі; некаторыя з іх у міліцыю сталі.

Пры санацыі мы тут у Трасцянцы сваю краму мелі, вясковую. Але калі нейкага тавару не было ў нас, дык прыходзілася ў Нарву або Заблудаў ехаць, да жыдоў, бо ў іх руках, папраўдзе, знаходзілася цэлы гандаль, не было там ні паляка, ні рускага. Ну, а жыды, як і ўсе — розныя былі. Наогул то да нас добра адносіліся, але ўсё ж стараліся, каб неяк больш скарыстаць. Нельга было толькі паддавацца. Былі такія, што і пазычалі, я ў аднаго то амаль на сто злотаў набраў у лаўцы. Гаварыў: Бяры, Іван, бяры. А як жа ж я табе аддам? — сумняваўся я. Аддасі, аддасі, — гаварыў ён. Ну, але яны рабілі так, бо мяне, мой характар знал!; бо каго не зналі, то такому не прадавалі напавер. Ну, то калі я свінчо прадаў, то разлічыўся з імі. А як немец прыйшоў, то ўсіх іх у Беласток, у гета пагналі. Я аднойчы паехаў з кумам у Беласток і там аднаго яго знаёмага жыда, доктара спаткалі. І ён кажа: — Вазьмі маю дачку да сябе, не пашкадуеш, усё жыццё будзеш помніць. Вярнуліся мы з тым кумам і яго ў Нарву чагосьці пазвалі. Ён паехаў з маім сынам да млына, сын у млыне астаўся, а ён у гміну пайшоў, а там яго і іншых, дваццаць ці сорак — добра ўжо не помню — немцы на падворку акружылі, загналі ў самаходы, завезлі ў дзевятнаццаты квартал у Лядскую пушчу і пабілі, бо ён кімся пры саветах быў. І з нашай вёскі адну жанчыну забілі, швагерку маю; жыла ў тым будынку, што цяпер пошта, *прадсядацелем* у Агародніках была. Многа іх папісалі, што дэпутатамі былі. На Ілью гэта, помню, было. Пабілі іх і засыпалі. То ездзілі мы два разы ў Бельск, каб пазволілі забраць іх адтуль і пахаваць. Але дазволу не давалі. То людзі кажуць: — Давайце самі. То мы там іх раскопвалі рукамі, забралі і пахавалі. А таго войта, што гэтых людзей выдаў, прызнаў, значыць, камуністамі, то самыя немцы расстралялі, нетутэйшы ён быў. А адзін быў з Паўлаў, то ён уцёк — кінуўся ў лес і ўдалося. Жонка яго таксама з намі адкопваць нябожчыкаў паехала, і ў крык: — Ой, майго няма! То мы ёй кажам: — Не плачце, заедзеце дадому і скажаце, што так пабіты, што і касцей не знайшла. А ён ужо дома! То мы тады сталі свае: яны нас клікалі на Пакрову, а мы іх на Прачысту, пасваяліся. Да яго ўжо потым не чапляліся — хапіла тую гадзіну перажыць, каб няма ад'ехалі.

Ну, усяго гэтага то мы добра не помнім, бо гэтым не цікавіліся, пільнавалі работы.

Запісаў **Аляксандр Вярбіцкі**

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 435

Рэдактар: Сакрат Яновіч

Зьніч

## Грахі гісторыі

... я чую голас успамінаў —
нібы з магілы ўсіх вякоў:
Сьвяшчэнны абавязак сына —
як крыж, цягнуць грахі бацькоў!

мне гэты камень не па сілах...
я падаю... і я малю:
не аддавай душу ў магілу...
Ойча, я ворагаў люблю...

ўспаміны сыцішацца сівыя
і голас жорсткі і сухі —
і я Вялікае Расіі
дарую даўнія грахі...

і новай руньню ўстануць пожні
стагоддзяў змрочных і глухіх —
і я дарую братняй Польшчы
яе шляхотныя грахі...

я ўхілюся ад сірэнаў
і падымуся ад сахі —
і я Нямеччыне зьмірэннай
дарую Марсавы грахі...

Літаньнем павярну на схіл
паразу жарсную й цяжкую —
люду абранаму дарую
антыхрысьцянскія грахі...

тысячагоддзяў злыя раны
прарвуцца, бы' гнілы пухір, —
і я дарую Ватыкану
палітыканскія грахі...

я прытулю матэрыкі,
што пад драконам акаянным, —
фундамэнтальным Басурманам,
ды новым златаскурым Ханам,
ды нова- і стара-Паганам
дарую Саўлавы грахі...

......................................................

... і Дух Сьвяты
аблашчыць сэрца...
як ноч, адыйдзе дух ліхі...
і возьме валадарства сьмерці
мае у л а с н ы я грахі...

Міхась Андрасюк

## Беласточчына

Тут Беларусі столькі,
колькі крыві ў нашых сэрцах,
колькі імён забытых, памінальнік,
з надзеяй на бяссмерце,
нахабна выклікае на змярканні.
Тут Беларусі столькі,
колькі крыжоў на скрыжаваннях
дарог людскіх і сцежак божых.
А смерць
зноў закідае хустку
і стыне ноч, і месяц басаножыць
у нашых сэрцах беларускіх.
Тут Беларусі столькі.

Міхась Шаховіч

*Анастасіі*

* * *

Час
Развітацца б
Ды як
Адыходзіць
Мо найлепш
Пакрыёма
Ціпіком
Нібы злодзей
Навошта б
Меў нехта
Заўважыць адсутнасць
Я
Зыйду незаўважна
Як шчасце
Ціхутка
Калісьці ўсіх
Згэтуль вецер адкіне
Важна б застаўся
След у каляіне
І травы шапталі б
Успаміны
У даліне
І чырвані смелай
Не ўкралі каліне
І спевы плылі
Аб прышласці
Нашай
Хоць людзі жылі
Ад учора
Да заўтра



*Мал. Міколы Давідзюка*

Алесь Чобат

## 1920 год

Лета здзічэлых садоў разрываецца громам.
Чырвоная кавалерыя пераходзіць Нёман.
Сорак пляменаў ідуць, унукі хана Чынгіза...

У разбураным Краі паміж Варшавай і Мінскам
крывавы пыл над зямлёй і свінцовая навальніца.
Лета здзічэлых садоў разрываецца громам...

Скончылася амуніцыя. Выйшаў даўно фураж.
Дарогі ў фурманках. Неба ў пажарах. Страшны міраж.
Штыхамі, нажамі, лапатамі б'юцца пад Радзымінам...

Б'юцца дывізіі з Крэсаў — за чужую Варшаву гінуць.
Але не дадуць яны мачыху ўнукам хана Чынгіза.
Стаіць Варшава — дай Бог, панове! Толькі гэта горад
не наш...

## Станіслаў Булак Балаховіч

Час кончыўся. Вайна ўсіх параўняла.
Варшава. Вільня. Рыга. Пскоў і Гдоў...
І хамы сабе маюць генерала!
Шэсць ранаў. Шэсць франтоў за шэсць гадоў.

У Рызе дзеляць — як у грудзі цэляць.
Край бáцькаў раздзіраюць на шматкі.
Адзін твой корпус. Апусцела сцэна.
Ідуць на бой палескія палкі...

На вёсцы голад. У салонах пышнасць.
Бальшавікоў сядзіць у Мінску рацъ.
А на цыбе ўсе пагромы спішуць —
з дачкою жыда шлюб няможна браць...

Віктар Швед

## Бясконныя

*(Апавяданні з маёй маладосці)*

Наблізіўся фронт другой сусветнай. Немцы хутка адступалі, іх месца заняла Чырвоная Армія. Байцы разбегліся па панадворках, чагосьці ўсё шукаючы. У нашай канюшні ўгледзелі маладую кабылку, якая ім надта спадабалася. Вывелі яе. Як не прасілі бацькі, каб пакінулі ім яны адзіную карміліцу, мольбы былі дарэмнымі.

— Мы вам доставим другую лошадь, — пацешыў татку баец. І сапраўды, прывялі салдаты нам высачэзнага, бельгійскай пароды, канюгу, што ледзь прасоўваў ногі.

— Конь измучен, — дадаў вяртлявы баец, — отдохнёт немного и будете им пахать, как трактором.

Аграмаднага каня таго ўвалаклі з бядою ў канюшню. Адны суткі ён прадрамаў над жолабам, не пакаштаваўшы ні разу аброку. У другія ж суткі ён лёг і не падняўся. Задраў зараз капыты. Трэба было, завязаўшы вяроўку за заднія яго ногі, выцягваць каніска на двор. І так засталіся мы бясконнымі.

— Саветы, — кажа вось бацька, — яшчэ адступаючы тады перад немцамі, забралі ў нас варанога, а кабылку — цяпер ізноў прыйшоўшы. Таму трэба звяртацца да іх за дапамогаю. Я, таксама, паверыў у дабрадзейнасць Чырвонай Арміі і выраішаў выбрацца бліжэй фронту ў пошуках якога канякі. Прысеў тым часам за сталом і напісаў верш-просьбу, лічачы, што некага кране за сэрца:

ПРОШУ СЕРДЕЧНО, ПОМОГИТЕ!
Жили в деревне небогато,
Жили с лошадкою одной,
Лошадку взяли нам солдаты
З какой-то части фронтовой.
Как жить без лошади? — Не знаю,
Без лошади ведь — как без рук.
Отец хромой, уж не хозяин,
Хозяйничать мне надо вдруг.
Какой, скажите, земледелец
Я, иль измученная мать?
Мы без лошадки неужели
Можем хозяйничать, пахать?
Прошу Вас очень, извините
Неугомонного меня,
И умоляю, подарите
Какого-либо мне коня.

З такім вершам за пазухай ды басаnож павандраваў я ў напрамку гарматнага гуку за палямі-лясамі. Чым больш набліжаўся, тым хутчэй яксьці ўцякаў ад мяне той фронт. Пасля некалькіх дзён апынуўся аж пад Ломжай, пакуль знаходзілася яна ў нямецкіх руках.

Адвячоркам неяк затрымаў мяне быў нейкі савецкі атрад. Камандзір не адступаўся.

— Поведём тебя в штаб, — сказаў пагрозна. Гэты ягоны штаб месціўся ў якойсьці вёсцы, да якой вялі мо гадзіну.

— Привёл я шпиона, товарищ полковник, — адрапартаваў бравы лейтэнант. Па маім целе прабеглі дрыжыкі.

Палкоўнік дазволіў мне прысесці ў крэсла. Пачаў распытваць — хто я і чаго шукаю якраз ля фронту? Я ўсё расказаў, потым выняў схаваны верш і падаў яму. Ён прачытаў, пагодна ўсміхаючыся.

— Да. Вижу, ты способен парень. Но лошади мы тебе не дадим.

Я адважыўся сказаць:

— А может, хотя б какую-нибудь легко раненую? Вылечим.

— Раненые съедают фронтовики, — адказаў. — Отправляйся домой и вступай в колхоз, там не нужны лошади, трактор вспашет землю. Советую больше не шляться возле фронта.

Пасля паказаў мне рукою дзверы. Я выйшаў за тую вёску. Зглядзеў ля дарогі капіцы летняй атавы. У іх, крышку супакоіўшыся, падрамаў да раніцы. Страшэнна балелі босыя ногі. Ранкам, на шашы, змог упрасіцца ў шафёра вайсковага грузавіка падвезці мяне. Даехаў да Замбрава. Адтуль пашчасціла на грузавік у Беласток; і нават у Бельск. Пехатою ўжо дабрыў да свайго Мора.

Бацькі, усцешаныя маім вяртаннем дамоў, і не пыталіся, чаму гэта без каня!

Згадзіліся затым на маю вучобу ў Беларускай гімназіі ў Гайнаўцы, а самі, неўзабаве, запісаліся ў „калхоз", што арганізаваўся ў вёсцы.

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Родная мова ў Беластоку

З вучнямі беластоцкай Пачатковай школы н-р 9 я сустрэлася на ўроку беларускай мовы. І хаця мае новыя сябры ад нядаўна вучацца гэтага прадмета, „Зорку" ўжо добра ведаюць. А Ігар Лінчук, разам з мамай, ужо раней завітаў у рэдакцыю, зразумела, па „Зорку". Ігар — першакласнік. Але ён ужо і чытаць тое-сёе з буквара ўмее, вершыкі дэкламуе. Слаўны першакласнік, не скажаш інакш пра такога. Сябры Ігара паказалі, што таксама чытаць ужо ўмеюць. Адрыян Паўлоўскі прачытаў з памяці верш Віктара Шведа пра родную мову. Хлопец ледзь не трапіў на дэкламатарскі конкурс „Роднае слова".

— Можа ў наступным годзе пашлем Адрыяна, — гаворыць матушка Галіна Баравік, настаўніца беларускай мовы.

Яе навучэнцы вельмі любяць беларускія казкі і песні. Ёсць сярод іх дзеці амаль з усіх класаў, ад першага па сёмы.

„Люблю наш край, старонку гэту" — гэтую мілагучную песню праспявалі вучні з беластоцкай „дзевяткі". Нягледзячы на тое, што навучанне беларускай мове адбываецца пасля заняткаў, усе прыходзяць на ўрокі.

— Хачу разумець, пра што гаворыць мая бабуля, — прызнаецца адна дзяўчынка.

Браты Адрыян і Пятрусь Паўлоўскія нават гавораць на мове сваіх продкаў. Развучылі яе ў роднай хаце, ад бацькоў. Гэта іх тата арганізаваў у школе н-р 9 урокі беларускай мовы.

Прыемна падзяліцца з усімі чытачамі весткай, што беластоцкія сябры паабяцалі супрацоўнічаць з „Зоркай". Вельмі ж ім спадабалася старонка, якую апрацавалі ўдзельнікі III Сустрэч „Зоркі". Дапамагалі яны таксама разыграць чарговы конкурс, а калі чыталі прозвішчы лаўрэатаў і мясцовасці адкуль яны паходзяць, многія ўспаміналі, што маюць там сваіх знаёмых або сям'ю. А зараз пазнаёмімся больш дакладна з беластоцкімі энтузіястамі. У групе, якую складае шаснаццаць вучняў, ёсць толькі адзін першакласнік — Ігар Лінчук. У трэцім класе вучацца Аня Гапанюк і Анэтка Міхальская, у чацвёртым — Крыстафор Мышкевіч і Марта Антанюк. Найбольш пяцікласнікаў: Пятрусь Паўлоўскі, Марцін Мышкевіч, Кася Бурачык, Барбара Кабэшка, Эва Гутораў. У групе найстарэйшыя сямікласнікі: Агнешка Антанюк, Ася Бурачык і Адрыян Паўлоўскі.

— Пакуль што, мы пачынаем, — гаворыць настаўніца, — а пачаткі, вядома — нялёгкія.

Зорка



*Энтузіясты беларускай мовы. З моладдзю матушка Галіна Баравік.* Фота Ганны Кандрацюк

# Стары конь

Быў у аднаго гаспадара стары конь. Цяжка яму стала саху цягнуць, пачаў ён прыставаць. Пашкадаваў гаспадар каня, падкаваў яго сталёвымі падковамі ды пусціў на луг адпасвацца.

Пасецца конь тыдзень, пасецца другі. Папраўіўся, нават пабрыкваць пачаў.

Трапіў аднойчы на гэты луг леў. Убачыў каня і здзівіўся: што за звер такі?

— Хто ты будзеш? — пытаецца ён у каня.

— Конь. А ты хто?

— А я леў. Над усімі звярамі цар. Я цябе з'ем.

— Каб з'есці мяне, — кажа конь, — трэба сілу мець...

Стукнуў леў сябе хвастом па баках, зароў:

— Я самы дужы звер!

— Го-го-го! — зарагатаў конь. — Яшчэ паглядзім, хто з нас дужэйшы. Давай сілаю мерацца.

— А як будзем мерацца? — пытаецца леў.

— Бачыш, вунь вялікі камень.

— Бачу, — кажа леў.

— Дык вось, хто стукне па гэтым камені так, каб агонь з яго паказаўся, той і дужэйшы.

— Добра, — згадзіўся леў.

Падышоў ён да каменя і пачаў біць лапамі. Біў, біў, толькі кіпцюры паздзіраў, а агню так і не выбіў.

— Гі-гі-гі, — смяецца з яго конь. — Слабы ж ты, брат, зусім. А яшчэ царом лічышся. Вось глядзі, як я стукну.

Падышоў стары конь да каменя, стаў да яго задам, падбрыкнуў і смальнуў падковамі аб камень... Іскры з каменя так і пасыпаліся...

„Ого, — падумаў сам сабе леў, — благія жарты з такім зверам". І, нічога не сказаўшы, пабег у лес. Там сустрэўся яму воўк.

— Добры дзень, ваша царская міласць! — пакланіўся яму воўк. — Куды мелі ласку хадзіць? Што чулі, што бачылі?

— Быў на зялёным лузе, — адказаў леў. — Бачыў там самага дужага звера...

— Якога? — пытаецца воўк.

— Каня.

— Гм... — кажа воўк. — Я іх не толькі бачыў, але і з'еў нямала.

— Што ты выдумляеш! — усхадзіўся леў. — Не можа быць.

— То хадзем, ваша міласць, пабачыце, як я з ім распраўлюся.

Падышлі леў з ваўком да лугу.

— Ну, дзе ж той конь? — пытаецца воўк.

— Ды вунь там, за кустамі ходзіць.

— Не бачу, — кажа воўк.

Узяў леў ваўка пад лапаткі і падняў над сабою:

— Цяпер бачыш?

Маўчыць воўк, як вады ў рот набраўшы.

Паглядзеў на яго леў — а той і не дыхае: задушыў яго цар звяроў сваімі лапамі.

Апусціў леў ваўка на зямлю і кажа:

— Ну вось, бачыш: ты толькі зірнуў на яго і то ўжо самлеў. А яшчэ выхваляўся! Што ж было б, каб мы падышлі блізка да гэтага звера: з'еў бы ён і цябе і мяне...

Напалохаўся леў каня і ўцёк.

З таго часу ён і не жыве ў нас.

*(Са зборніка „Беларускі дзіцячы фальклор")*

# Дэбют

## Лісце

Ляціць лісце з дрэў,
Падае на зямлю —
Жоўтае, чырвонае,
Усё каляровае.
Падае на зямлю,
Ляціць на дарожку —
Жоўтае і чырвонае,
Яго так шмат на сцежцы.
Ляціць лісце на дарожкі,
Ляціць, колеры губіць,
Як упадзе на тратуар —
Патопчуць яго людзі.

**Сільвія Ракіцкая, IV кл. у Нарве**

## Найлепшыя

20 сакавіка гэтага года ў Пачатковай школе н-р 3 у Бельску-Падляшскім адбыўся фінал Ваяводскага конкурсу па беларускай мове. Да яго прыступіла восем вучняў з пачатковых школ у Бельску, Нарве, Кленіках і Орлі.

Пераможцамі сталі вучаніцы: **Галена Анна Сідэвіч**, вучаніца VII класа ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім — заняла яна першае месца, **Анна Тафілюк**, вуч. VIII класа ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім — другое месца і **Анна Садоўская**, вуч. VII класа ПШ у Нарве — трэцяе месца.

Лаўрэаткі ганарацца сваімі настаўнікамі беларускай мовы. Вучаніц з бельскай „тройкі" рыхтавалі да конкурсу **Анна Бжазоўская** і **Міраслава Маркевіч**, а вучаніц з нарваўскай школы — **Ніна Абрамюк**. Лаўрэаты і настаўніцы, прыміце нашы віншаванні! **(яц)**

## Пра дэкламатараў

Усё яшчэ жывыя ўспаміны пра дэкламатарскі конкурс „Роднае слова", які сёлета праходзіў у Нарве.

У дзіцячай праграме „Для школы і дому" часта чуваць выступленні слаўных дзяцей. Многія з іх напэўна праз год зноў возьмуць удзел у гэтым мерапрыемстве і будуць ажыўляць роднае слова.

Варта дадаць, што конкурс быў арганізаваны, дзякуючы шчодрай дапамозе спонсараў. Найбольш дапамаглі: прадпрыемства **Рольмак з Макаўкі**, фірма **Пронар** і **Аляксандр Астроўка з Нарвы**.

Дзякуем ім ад імя ўсіх дзяцей, якія вывезлі з Нарвы добрыя ўспаміны.

Зорка



*Дэкламаторкі з Нарвы. Злева: Міхаліна Гэва, Сільвія Ракіцкая і Ася Сяткоўская.*

# Сустрэча з Лёнікам

— Кожнае дзіця вельмі цікава малюе. Найпрыгажэй хіба малышы, дашкольнікі. Пазней, калі дзеці ідуць у школу, пачынаюць маляваць як сябры і як падабаецца настаўніку, — гаварыў на сустрэчы з вучнямі бельскай „тройкі" Лёнік Тарасэвіч. Сам ён, хаця і вялікі мастак, любіць працаваць з дзецьмі. Пераканаліся ў гэтым усе ўдзельнікі III Сустрэч „Зоркі". Многія вучні ставілі пытанні. Але яшчэ перад гэтым паслухалі пра дзіцячыя гады, пра школы ў якіх вучыўся мастак.

— Аднойчы на ўроку рэлігіі, — успамінае Лёнік, — я атрымаў тройку за тое, што намаляваў Чырвонае мора чырвоным колерам. Гэтая тройка запамяталася мне на ўсё жыццё.



*Лёнік на фоне дзіцячых карцін выкананых шпрэем.*
Фота Ганны Кандрацюк

Найбольшае зацікаўленне прысутных на сустрэчы ўзбуджалі замежныя падарожжы. Мастак з'ездзіў амаль увесь свет! Найбольш вобразна, здаецца, расказваў пра падарожжа ў Паўднёвую Амерыку. Кантынент гэты цікавы не толькі колерамі, але і іншым стылем жыцця. Там працу пачынаюць уначы, а ўдзень адпачываюць! Зусім наадварот, чым у нас.

Многа месца занялі размовы пра музыку. Мастак найахвотней слухае Казіка. На сустрэчу сышлося шмат школьнікаў. Звыш сотня з іх датрывала да канца двухгадзіннай сустрэчы.

У час мерапрыемства былі паказаны пластычныя працы ўдзельнікаў III Сустрэч „Зоркі". Якраз у бельскай „тройцы" пачалася выстаўка прац маладых мастакоў і будзе паказвацца месяц. Варта паглядзець гэтыя нетыповыя, поўныя колераў і энергіі дзіцячыя карціны і малюнкі.

**Г.К.**

# Аб нашым мінулым

## (4)

## Продкі беларусаў прымаюць хрысціянства

Да славянскіх плямёнаў вучэнне Ісуса Хрыста пачало пранікаць даволі рана. Звесткі пра яго прыносілі ў беларускія плямёны вандроўныя купцы, збеглыя нявольнікі, састарэлыя і акалечаныя воі-наёмнікі, якія вярталіся на радзіму са службы ў візантыйскім войску. З паходаў супраць грэкаў вярталіся палацкія і іншыя ваяўнікі і таксама расказвалі пра веру, братэрскія адносіны да іншых людзей і высокую культуру хрысціян.

Рухлівы шлях „з варагаў у грэкі" праходзіў праз Ноўгарад і Кіеў, але таксама пралягаў па рэках Дзвіне, Бярэзіне і Дняпры праз землі палачан, іх сталіцу Полацк, і праз зямлю Радзімічаў. Па рэках Прыпяці і Бугу ішоў ён праз дрыгавіцкую зямлю і яе сталіцу Тураў, таксама праз Драгічын — найбольшы дрыгавіцкі горад на цяперашняй Беласточчыне. Купцы і іншыя вандроўнікі пашыралі сярод беларускіх плямёнаў усё болей ведаў пра хрысціянства. Вядома, што адзін з іх, ісландзец Торвальд Вандраўнік, ахрышчаны ў Візантыі, прапаведаваў хрысціянства ў Полацку і заснаваў каля яго манастыр Іаана Хрысціцеля.

**У 988 годзе кіеўскі князь Уладзімір прыняў хрышчэнне ад Візантыі.** Запрошаныя ім візантыйскія святары ахрысцілі жыхароў Кіева і паступова пачалі хрысціць насельніцтва падлеглых кіеўскаму князю земляў. Пра дзейнасць князя Уладзіміра ў летапісе гаворыцца, што ён *усю зямлю Рускую хрысціў ад канца і да канца, і загадаў будаваць з дрэва цэрквы на тых месцах, дзе дагэтуль стаялі статуі язычаскіх багоў.* „Рускай зямлёй" у той час называўся абшар вакол гарадоў Кіева, Пераяслаўля і Чарнігава. Толькі праз два-тры стагоддзі гэтая назва распаўсюдзілася на ўсіх усходніх славян, а таксама і на беларусаў. Таму нашыя суседзі-палякі часамі беларусаў называюць „Ruskimi", беларускія землі — „Ruś", а праваслаўнае веравызнанне — „wiarą ruską".

Пасля прыняцця хрысціянства Рускай зямлёю, хрысціянства пашыралася і на іншых усходнеславянскіх землях, таксама і на беларускіх. У адным са старажытных дакументаў паведамляецца, што ў 1005 г. была ўтворана Тураўская епархія, а першым яе епіскапам быў уладыка Фама. Гэта епархія ахоплівала вялікі абшар земляў з гарадамі Пінскам, Слуцкам, Навагрудкам, Ваўкавыскам, Гроднам, Брэстам, а на цяперашняй Беласточчыне — з Драгічынам, Мельнікам, Бельскам, Суражам, Гарадком і іншымі. Хрысціянства прынялі таксама палачане і радзімічы.

Прыняццё хрысціянства мела вялікае значэнне, бо яно вучыць людзей шанаваць кожнага чалавека і ўвесь акаляючы нас свет як творы Божыя. З Візантыі і іншых хрысціянскіх краін ва ўсходнеславянскія княствы прыбывалі архітэктары і вучылі будаваць велічныя мураваныя храмы, палацы, абаронныя ўмацаванні. Пры цэрквах і манастырах паўставалі школы, майстэрні па перапісванні кніг, стварэнні іконаў, працавалі залатары, разьбяры і другія мастакі. Святары і манахі з Візантыі і Балгарыі былі на славянскіх землях першымі лекарамі, аптэкарамі, аграномамі, яны прыносілі са сваіх краін невядомыя дагэтуль славянам гатункі збожжа, садавіны і гароднiны.

Хрысціянства вывела нашых продкаў з язычаства. Разам з тым славянскія, а разам з імі беларускія княствы далучыліся да хрысціянскіх краін.

**Практыкаванні**

*1. Хто прыносіў беларускім плямёнам звесткі пра хрысціянства?*

*2. Што адбылося ў 988 годзе?*

*3. Калі была заснавана Тураўская епархія?*

*4. Якія гарады знаходзіліся на тэрыторыі Тураўскай епархіі?*

*5. Чаму навучала раней і сёння навучае хрысціянства? Як змяніліся людзі пад уплывам хрысціянскага вучэння?*

*6. Што новае разам з хрысціянствам прыходзіла ў жыццё нашых продкаў?*

**Дапоўні сказы і запішы іх у сшытку.**

Кіеўскі князь ... прыняў у ... годзе хрышчэнне ад ... . Тадышняе насельніцтва земель, дзе цяпер прасціраецца Беласточчына і знаходзіцца гарады ..., ..., ..., і ..., належала да ... епархіі. Разам з хрысціянствам на беларускія землі прыйшло пісьменства, ... кніг, стварэнне ..., пабудова мураваных ..., ..., ... .

# Пішуць школьнікі

### Мае зімовыя канікулы

Зімовыя канікулы я правяла цікава.

Першы тыдзень я была дома. Дапамагала маме, гуляла з сястрой, рабіла снегавіка. Я таксама прачытала многа цікавых кніжак. У другі тыдзень канікул я паехала да бабулі ў вёску Трывежа. Я там гуляла з дваюрадным братам і сястрою. Хадзіла на двор, гуляла з сябрамі.

У панядзелак 26 лютага мы вярнуліся ў школу.

Для мяне гэтыя канікулы былі вельмі цікавыя.

**Эміля Петручук**
**VII кл. ПШ у Новым Корніне**

### Дарагая „Зорка"!

Мяне завуць Анэта Андрасюк. Вучуся я ў класе VI „а" Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Мая настаўніца называецца Міраслава Маркевіч. Я вельмі люблю беларускую мову. Мы разам з настаўніцай чытаем на ўроках „Ніву", але найбольш мы зацікаўлены старонкай „Зорка". З яе мы чэрпаем веды, чытаем вершы, казкі, рашаем загадкі, крыжаванкі. Усё гэта нам вельмі цікава. І я хачу табе ад імя нашага класа падзякаваць за так цудоўную беларускую газету са старонкай „Зорка", якая дае нам многа карыснага. Дзякуем ад цэлага сэрца табе „Зорка" і запрашаем цябе да нас.

Да пабачэння!

**Ад „Зоркі":** Прывітанне Анэтка. Дзякую за мілы ліст і абяцаю наведаць Ваш сімпатычны клас.

# *Зімовыя птушкі*

Маленькая сінічка
На яблыньку села,
У акно паглядала —
Скварачку хацела.
  Дзяцел у садочку
  Дзяўбе дзірку гладку,
  Стукае бы ў бочку —
  Робіць ў грушы хатку.
Прыляцелі гілі,
На каліну селі,
Ягад назбіралі
Ды ў лес паляцелі.
  І ля курак птушкі:
  Скачуць жаўтабрушкі,
  Пшанічкі пад'елі
  Ды на вішню селі.
Курапаткі ў снезе
Селі пры дарозе,
Вочкамі міргаюць,
Зярнятак чакаюць.

**Мікалай Ігнацюк**

## Польска-беларуская магічная крыжаванка

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Kruk | | | | |
| Rada | | | | |
| Uderzenie | | | | |
| Kora | | | | |

Перакладзіце польскія словы на беларускую мову і запішыце іх у клеткі. Калі вы правільна рашыце крыжаванку, атрымаеце падвойныя (вертыкальна і гарызантальна) адказы.

**Адказ на крыжаванку н-р 9:** клунак, Дон, Нарва, бондар, Лука, будан, норд, канва, ар.

Запісныя альбомныя кніжкі выйгралі: **Наталька Сушч** і **Марта Пацэвіч** з Бельска-Падляшскага, **Бажэна Трафімюк** са Старога Беразова, **Юліта Ваўранюк** з Тыневіч і **Адам Янюк** з Катоўкі.

## Крыжаванка № 14

Упішыце ў клеткі патрэбныя словы. Калі правільна адгадаеце ўсе словы, атрымаеце лозунг. Адказы з наклееным кантрольным талонам дашліце ў „Зорку". Тут разыгрываем цікавыя ўзнагароды.

*(Апрацавала Ніна Абрамюк)*

Вусы мае, але ніколі іх не стрыжэ.

Пасярод двара стаіць гара. Спераду вілы, а ззаду мятла.

Палюе на мышэй ды не кот.

У чырвоных ботах ходзіць па балотах.

За ўсіх птушак ён чарней, чысціць поле ад чарвей.

Мае грабеньчык, ды ім не расчэсваецца.

Рыжая дзяўчына залезла ноччу ў двор, курэй перадушыла і ўсіх панесла ў бор.

Улетку шэранькі, а ўзімку беленькі.



Талон „Зоркі" № 14
7.04.1996

# Беларускі студэнцкі рух

— Паміж светам ідэі, а палітычным падрахункам існуе неабсяжны разрыў, — сказаў 21 сакавіка г.г. у Беластоку Яўген Вапа, выступаючы на аўтарскай сустрэчы з нагоды выхаду друкам кнігі **„Беларускі студэнцкі рух у Польшчы 1981-1992"**.

Тым не менш, беларускі студэнцкі рух здолеў прыцягнуць да сваёй ідэі немалы інтэлектуальны патэнцыял, які пасля гадоў актыўнасці на грамадскай ніве ўліўся ў прафесійны дзяляніі жыцця, ці надалей выяўляецца ў пазапрафесійнай дзейнасці. Беларускімі студэнтамі быў заснаваны другі ў пасляваеннай Польшчы беларускамоўны часопіс „Сустрэчы". Яго рэдактары цяпер апынуліся ў ліку супрацоўнікаў „Нівы". З ініцыятывы былых дзеячаў Беларускага аб'яднання студэнтаў было заснавана ў Беластоку беларускае прадшколле. Беларускія студэнты сталі заснавальнікамі беларускага палітычнага руху.

— Арганізацыйны зрух у асяроддзі беларускіх студэнтаў у пачатку 80-х гадоў меў абарончы характар, — гаварыў Я. Вапа, — быў маніфестацыяй нязгоды на існуючую рэчаіснасць, адмежаваннем ад мора польскасці і стэрэатыпу „праваслаўнага паляка", створанага ваяводскімі ўладамі. Ваеннае становішча зрабіла тут вялікую шкоду, бо спыніла разгар працы, якая ішла ў гэтым асяроддзі. Аднак, калі разглянуць дакументы *першага БАСа*, не знойдзем там палітычных дэкларацый. Першы БАС займаўся выключна сваім арганізацыйным самавызначэннем. *Другі БАС*, які ўзгадваўся ў больш свабоднай атмасферы — даступнай была ўжо непадцэнзурная літаратура ў акадэмічных цэнтрах, здаецца быць больш спелым, з выразна зазначаным нацыянальным воблікам.

— Стварэнне дакументацыі таго, у чым не раз эмацыянальна мы ўдзельнічалі, — сцвердзіў Славамір Іванюк, другі ўкладальнік кнігі „Беларускі студэнцкі рух", — з'яўляецца няпростым заданнем. Да таго ж усякія пераказы пра беларускі рух у Польшчы можна браць толькі з пераапрацаваных крыніц — ніводзін архіў у Польшчы не мае асобнага аддзела па беларускіх дакументах. Напэўна шмат запісаў пра беларускі студэнцкі рух ляжыць у архівах Згуртавання польскіх студэнтаў і... архівах Міністэрства ўнутраных спраў. Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў свой архіў не дазволіла заглянуць. У 80-х гадах існаваў таксама яшчэ адзін архіў — рэдакцыі „Сустрэчы". Цяпер ён у прыватных руках.

Рашэнне пра акуратнае ўкамплектаванне дакументацыі студэнцкага руху было прынята зімою 1989 г. на другім з'ездзе Беларускага аб'яднання студэнтаў. Узнікла некалькі ідэй наконт кшталту кнігі пра студэнцкі рух, але яе ўкладальнікі вырашылі, што мае гэта быць менавіта збор дакументаў. Канчаткова кніга ўбачыла свет на Каляды гэтага года.

— Выхад друкам дакументаў беларускага студэнцкага руху ў Польшчы павінен быць штуршком для ўдзельнікаў таго руху дзеля спісання сваіх асабістых успамінаў, — сцвердзіў Славамір Іванюк. **(ам)**

# „Наша Ніва" — штотыднёвік

Беларуская журналістыка пачалася ў „Нашай Ніве". Пасля было або паўтаранне і перапрацоўванне ранейшага ўзору (Заходняя Беларусь), або свабоднае слова заглохла, прыдушанае савецкім таталітарызмам. Да такой больш-менш высновы прыйшлі напрыканцы 80-х гадоў маладыя беларускія дзеячы, літаратары, журналісты. І рашылі вярнуцца да вытокаў.

Першай, у 1990 годзе, „аднавілі" „Свабоду", якая ў пачатку стагоддзя так і не ўбачыла чытача. Год пазней у Вільні пачала выходзіць „Наша Ніва". Пасля працяглага перыяду нерэгулярнасці ўдалося зрабіць менскую „Свабоду" штотыднёвікам, а „Нашу Ніву" — штомесячнікам. Абодва рэдактары — Ігар Гермянчук і Сяргей Дубавец — дэкларавалі, што іхняя мэта, гэта штодзённая „Свабода" і штотыднёвая „Наша Ніва".

З мінулага года „Свабода" выходзіць два разы ў тыдзень, але штодзённай пакуль не стала. Затое „Наша Ніва" пасля амаль гадовага перапынку, паявілася як штотыднёвік, але ўжо не ў Вільні, а ў Менску. Пакуль яна пры гэтым і налічвае ўсяго 12 старонак (пaней 20–24). Змяшчае карацейшыя, больш злабадзённыя матэрыялы. Даволі многа перадрукаў, асабліва з польскай прэсы.

Што мне не падабаецца, дык макет жыўцом зрэзаны з „Gazety Wyborczej". Што спраўдзілася ў выпадку штодзённікі, неабавязкова адпаведнае штотыднёвіку. Тым больш, калі гэта не арыгінальны варыянт, а паўтарэнне чыёйсьці задумы.

Хаця віленская (новая) „Наша Ніва" лічылася вельмі амбітнай, адцягнутай, элітарнай, усё ж сфармавала (менавіта так) круг пастаянных сваіх чытачоў. Да іх і я сябе залічваю, дык з сапраўднай радасцю сустрэў я тое, што з'яўляецца яе працягам. А гэта перш за ўсё аўтары: Уладзімер Арлоў, Адам Глёбус, Сяргей Дубавец, Сяргей Шупа, Алег Дзярновіч.

У „Нашай Ніве" відаць памкненні ахапіць усе культурныя працэсы, якія праходзяць у Беларусі. Калі будзе ўтрыманы штотыднёвы рэжым выдання, ёсць шанцы задуманае здзейсніць. Інтэлектуальны патэнцыял дзеля гэтага ёсць. **М. В.**

## З жыцця Царквы

Нядаўна вернікі са Зверак, што ў Заблудаўскай гміне, атрымалі дазвол на пабудову храма ў гэтай вёсцы. (Як вядома, адтуль паходзіць святы вялікамучанік Гаўрыіл.) Маюць яны ўжо будаўнічую пляцоўку і гатовы праект пабудовы царквы. Асвячэнне і закладзіны краевугольнага каменя пад пабудову вышэйзгаданага сакральнага аб'екта адбудуцца 28 красавіка 1996 г.

## ...і БГКТ

Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства супольна з Куратарыяй асветы ў Беластоку арганізавалі: 20 сакавіка фінал Ваяводскага конкурсу беларускай мовы для вучняў пачатковых школ (да яго кваліфікаваліся вучні ПШ у Бельску-Падляскім, Нарве, Кленіках і Орлі) і 21 сакавіка цэнтральныя элімінацыі дэкламатарскага конкурсу для вучняў сярэдніх агульнаадукацыйных школ і для дарослых (удзельнічала ў ім каля 30 асоб з ліцэяў з беларускай мовай навучання ў Бельску і Гайнаўцы). **(яц)**

Сакрат Яновіч

# Сорак гадоў „Нівы": эпохі і пакаленні

*(даклад на канферэнцыю з нагоды юбілею „Нівы")*

Памятаю марозную зіму 1956 года. Ехаў я тады пуставатым рэйсавым аўтобусам з Крынак у Беласток, на работу ў — арганізаванай уладамі — рэдакцыі „Нівы". Свет засланялі дзівосныя ўзоры на шыбах, адчувалася нейкую зачараванасць, якая не пакідала мяне і потым.

Простыя людзі будуць пісаць сваю газету за польскія грошы! — бацьку гэта быў парадокс, які доўга не працягнецца. Таму не ўхваляў ён таго, што я кінуў фах электратэхніка ў фастаўскім камбінаце. Трэба каму гэтай газеты? Хлеба яна людзям дасць? — ставіў стары пытанні.

Год той пачынаўся сапраўды незвычайна. Нашумеўшы дваццаты з'езд бальшавіцкай партыі прымаў я адным вухам, больш перажываючы менавіта Устаноўчы з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства, напрыканцы лютага ў Беластоку. Была на ім і мая маці, нават дэлегатам лічылася, аб чым не ведала і не ведае. Часам дапытвалася ў мяне, куды гэта звазілі былі яе з іншымі крынкаўскімі бабамі ды мужчынамі, адразу з местачкогага рынку ды аж у Беласток, у пакрытым брызентам грузавіку з лавамі ў кузаве... А мы выпусцілі спецыяльны нумар тыднёвіка, не зусім верачы ў такі цуд сваіх здольнасцяў прасцякоў.

Шчасце, што крыху абцёрся аб газетную работу наш малады шэф, назначаны вярхамі галоўны рэдактар. Пад энтузіязм купкі нацыянальных недабойкаў, тыражы інаўгурацыйных нумароў „Нівы" размахнулі проста паднебныя, калядзесяцітысячныя. Функцыянаваў міф пра сотні тысяч беларусаў. Тым болей верагодны, што жывое роднае слова часта чулася, а ў вёсках і глухіх мястэчках аніхто не азываўся папольску; сяромеўся, бо засмяялі б, што на пана захварэў. Беларускую мову — па паншчыннай традыцыі — трактавалася не як знак нацыянальнасці, але мужыцкасці. Гэты анахранізм ні трохі не пахіснуўся ў наступныя эпохі; дзеля гэтага спатрэбілася б беларускай дзяржаўнасці, якой не было і няма.

Усё ж значная папулярнасць „Нівы" трымалася на досыць працяглай жывучасці сялянства, распаўсюджанасці прадмета беларускай мовы ў школах, як і прапагандысцкай палітыцы самых уладаў (таннасць падпіскі, націскі на кальпартаж). Прычым „Ніва" не мела канкурэнтнага мясцовага часопіса з падобным профілем, скажам, польскамоўнага. Нягледзячы на так спрыяльныя ўмовы, друкаванне яе памяншалася час ад часу да трох з лішнім тысячаў экзэмпляраў. І каторы раз ужо гэта выклікала стан мабілізацыі ў калектыве, у выніку якое падпіска і продаж часопіса зноў раслі. Давалася тое без знясільваючай натугі, варта нагадаць, бо штотыднёвік выконваў ролю ідэалагічнага працягу ў грамадскія нізы, памкненняў партыі і ўрада Народнай Польшчы. Персанальная крытыка на яго-ных старонках ўяўляла сабою не меншую небяспеку, чымсьці на камітэцкім пленуме або на форумах іншых органаў. „Нівы" баяліся, жадалі згоды з ёю. Хто не меў прычынаў дзеля такое боязі, ахвотна чытаўся ў яе старонкі, каб пабачыць, каму яна „падсыпае пад хвост". Крытыка ў тыя часы лічылася абавязковым канонам дзейнасці, замяняла яна матывацыю дзеля штораз лепшых вынікаў у вытворчасці і ў сферы духоўнасці.

Разам з тым „Ніва" сталася, аднак, гістарычна спозненай ініцыятываю. Яе самае буйнае жыццё дакладна суадпавядае гамулкаўскай эпосе ў Польшчы, разбурэнню сялянскіх гаспадарак як капіталістычнай канцавіны, што на нашых слабых землях адбывалася малаканфліктна, а нават з прыхільным зразуменнем. Псіхалагічна збывалася адвечная мара халопа лягчэй жыць — праца ў фабрыцы бачылася амаль несур'ёзнай забаваю, стандартная кватэра ішла ў параўнанне з фальварковымі або дваровымі пакоямі. Сапраўды мела месца рэвалюцыя быту цаною пераходу ў рабочы клас і поўнай дэнацыяналізацыі. Арыентацыйна да перыяду ранняга Герка, да паловы сямідзесятых.

Першапачатковая натуральная народнасць або і народніцтва ў „Ніве" ў змяркане таго перыяду страчвала грунт, набывала рысаў скансэну. Масавы чытач, перамяшчаючыся ў маштабах шэсця ў гарады, браў у рукі ўжо іншыя часопісы і газеты, адэкватнейшыя ягонаму навалёсу.

У прыход дэкадансу „рэальнага сацыялізму" было ясна, што вёска канчаткова асуджана не адно ў адпаведнасці з камуністычнай дактрынаю, але і як постфеадальная структура. Пераход ад натуральнай да таварнай сельскай гаспадаркі прадракаў трансфармацыю краявіду з вёскі і поля ў мястэчка і поле. г.зн. індустрыялізацыю вырошчвання збожжа і жывёлагадоўлі. Атрымала тое польскую назву „пэгээрызацыі" (ад ПГРа кшталтам „саўгаза"). Перспектыўны чытач затым мог быць толькі тут; малады, а не сцішаны пенсіянер. Яно так і здарылася бо не як простая паслядоўнасць — мястэчка брыняла білінгвізмам у карысць перавагі польскамоўя, адыходу ад беларускай монакультурнасці. Надыходзячая эпоха стала пачаткам застойнай пары ў дынаміцы часопіса з тэндэнцыяй да рэдукцыі яго ў маргінальную з'яву на арэале беларусапаходжанскага грамадства.

„Ніву" горад — практычна — не чытаў і не чытае, акрамя інцыдэнтальных патрыётаў. У яе тэматыцы, таксама і ў другой — скажам: местачковай — фазе існавання, дамінаваў прымат пашырэння сельскагаспадарчай культуры і рэзультатыўнага ёй цывілізацыйнага росту ў пабыце земляроба, як і пахвала ўваходжанню ў прамысловы пралетарыят, што адпавядала фундаментальнаму прынцыпу рабоча-сялянскага саюза ў партыйнай прапагандзе. Нацыянальныя акцэнты ў публікацыях дапускаліся не вышэй фальклорных захапленняў; час-часам прыпаміналі кі-раўніцтву і журналістам, што „Ніва" не

# Музей будуецца

**Спаткаўшыся з *Канстанцінам Майсенем* не можна не гаварыць пра Музей. Тым больш у самім Беларускім музеі ў Гайнаўцы. Ды там мала гаварыць, а трэба абавязкова агледзець яго, прайсціся са спадаром Канстанцінам доўгімі калідорамі, абшырнымі холамі, убачыць скончаныя залы і тыя, якія яшчэ ў пабудове.**

— Калі хтосьці загляне сюды раз на нейкі час, — тлумачыць гаспадар, — яму можа здацца, што ў нас няма ніякага зруху дапераду, што мы ўсё на тым самым этапе пабудовы. Толькі той, хто дзень і ноч жыве пабудовай, умее ўбачыць кожны новы элемент, даацаніць зробленае апошнім часам. У нас, хачу зазначыць, работа не спыняецца ні на хвіліну, калі немагчыма весці будаўнічыя працы звонку, мы праводзім аддзелачныя працы ўсярэдзіне памяшканняў. Хадзем, пакажам вам, як мы рыхтуем будучую кавярню і бар.

Сходзім у падвал, дзе завіхаюцца сталяры, інжынер Ян Карпюк і Раман Скепка. Яны запраектавалі і самі робяць дубовыя столікі і крэслы. Кавярня будзе афармлена ў дубе. Ужо галоўны ўваход мае знадворку драўляны дашок. Усярэдзіне яшчэ паставіць буфет і можна будзе прымаць гасцей.

Унізе ёсць яшчэ сталярня, дзе ўласнымі сродкамі выконваецца патрэбнае абсталяванне. Працаўнікі музея самі апрацавалі і метад асушкі прывезенай з Беларусі дубіны.

Затым прагуляліся мы па закрытых зімой памяшканнях, паглядзелі экспанаты на складзе, якія патрабуюць неадкладнай кансервацыі. Спадар Майсеня гаварыў пра планы на будучыню і вялікія магчымасці, якія дае такі аграмадны і архітэктурна цікавы аб'ект. Размову ў кабінеце старшыні, за чаем, распачалі мы ад лютаўскага трохбаковага — беластоцкі ваявода, грамадскі камітэт пабудовы Беларускага музея і Беларускае грамадска-культурнае таварыства — пагаднення (гл. „Ніву" ад 10 сакавіка „Музей будзе...").

— *Што канкрэтнага дае яно Музею?*

— Гэтае пагадненне — гарантыя заканчэння пабудовы і сарганізавання Музея. Мы ўжо, папраўдзе, гэтыя дзве справы вядзем паралельна. У нас як быццам два аддзельныя прадпрыемствы, адно будаўнічае і другое — гэта ўласна Музей. Шмат праектаў патрабуе грашовых і матэрыяльных сродкаў. Ваявода абавязаўся такія сродкі расстарацца і я веру, што нашы ўлады ў крыўду нас не дадуць, а грошы будуць паступаць своечасова.

— *Пагадненне, пагодзіцеся, вельмі ж агульнае і практычна дае свабодную руку ваяводу ў выпрашэнні будучыні Музея. Ён апрацоўвае статут, назначае дырэктара, прымае працаўнікоў...*

— Не, не, гэта не так. Праўда, гэтае пагадненне агульнае, але яно толькі падстава для распрацоўкі падрабязнай, аналітычнай дамовы, якая дакладна пакажа правы і абавязкі бакоў, якія пад ёю падпішуцца. Звярніце ўвагу таксама на тое, што ў пагадненні ёсць пункт, які дазваляе парваць яго з трохмесячным папярэджаннем у выпадку незадавалення аднаго з бакоў.

— *Думаю, не на тое вы пагадненне падпісвалі, каб зараз жа яго парываць.*

— Вядома. Але такая магчымасць ёсць, калі б з'явіліся непераадольныя засцярогі. Я не сумняваюся, ці Музей будзе, ці не. Мы знаходзімся на такім этапе, што спыніць інвестыцыю немагчыма. Найбольшая крыўда, якая можа стацца Музею, гэта затрымліванне заканчэння будовы. Укладзеныя вялікія грошы аплацяцца, калі ўстанова як найхутчэй запрацуе. Я дагаварыўся з дырэктарам Бельска-падляшскага будаўнічага прадпрыемства, што калі будуць сродкі, пабудову можна будзе закончыць яшчэ ў бягучым годзе. Вядома, што калі пабудова зацягваецца, яе кошты растуць. Але, мушу зазначыць, хаця мы яшчэ не скончылі будаваць, у нас пастаянна шмат гасцей, не толькі мясцовых, але і з цэнтральнай Польшчы, і з Беларусі, і з Захаду. Ад аднаго з наведвальнікаў пачуў я нават такую назву: „Музей беларусаў усяго свету". Думаю, што яна трапная, апраўдоўваюць яе і размеры нашага аб'екта, і шчаслівае палажэнне з неабмежаваным доступам для ўсіх. У нас добры клімат, які можа прыцягнуць адпачыць, але таксама адданыя справе беларусы-патрыёты, якія рупяцца не толькі аб музеі, але і беларушчыне наогул.

— *Такую назву апраўдоўвала б і тое, што да пабудовы падключыліся беларусы з усяго свету.*

— Сродкі на інвестыцыю дзеляцца на тры, больш-менш роўныя часткі. Паводле крыніц фінансавання, гэта выглядае так: польская дзяржава, беларуская дзяржава і грамадскія ахвяраванні. Сярод ахвяравальнікаў ёсць і беларусы-эмігранты, ад якіх мы па сённяшні дзень атрымалі каля сарака тысяч амерыканскіх долараў. На нашыя патрэбы гэта невялікая сума, але яна надзвычай цэнная як сімвал адзінства беларусаў у свеце. Да нас паступалі ахвяраванні з ЗША, Канады, Аўстраліі, Бельгіі, Вялікабрытаніі, Нямеччыны і іншых краін. Неацэнны ўклад працы унесла грамадства Гайнаўкі і Гайнаўшчыны, сяляне, рабочыя, інтэлігенцыя. Найбольш, вядома, выпала на наш мясцовы беларускі актыў, у чалавек трыццаць. Мы ўсю цэглу разгрузілі, шмат парадкавых прац выканалі. Зразумела, усё грамадскім чынам.

— *Колькі асоб цяпер працуе ў Музеі?*

— Восем, у тым дзве на паўштату. Адной з гэтых дзвюх асобаў з'яўляюся я сам.

— *Вы? Колькі гадзін, у Вашым выпадку, працягваецца праца на паўстаўкі?*

— Гм, напэўна больш за восем гадзін у суткі, а бывае і па дванаццаць. Я ўвечары, калі мне ў 7 гадзін не патэлефаную, што ў Музеі ўсё ў парадку, спаць не магу. А часам прыйду, пагляджу, ці ўсё на сваім месцы. Ну, але ж мы гаворым не пра мяне, а пра Музей. Тут не адзін я пастаянна жыву пабудовай, больш такіх знойдзеце ў нашым грамадскім камітэце.

— *Які, дарэчы, паводле законаў павінен распусціцца, калі закончыцца пабудова.*

— Ён не распусціцца, а памяняе назоў з Грамадскага камітэта пабудовы на Музей і асяродак беларускай культуры. Найважнейшае, што права на ўласнасць застаецца за намі, за беларусамі. Вы, малады чалавек, таму памятайце, што мы — старыя — зрабілі ўсё, каб гэты музей паўстаў. Абавязак утрымаць яго спачывае на вас. Калі б ён перастаў быць беларускім, адказнасць за гэта таксама падзе на вас.

— *Выбачайце, спадар Майсеня, але як я магу адказваць за штосьці, дзе мяне неахвотна хочуць бачыць у будучыні і не пусціць.*

— Ну, што вы! Я заўсёды вам рады. Ці калі вас сюды не пусцілі?

— *Вы асабіста, гэта другая справа. Я маю на думцы іншых падпісаўшыхся пад пагадненнем ды невядомых будучых гаспадароў.*

— Слухайце, мая пазіцыя такая: я мушу гаварыць з усімі, усіх хваліць, сам заставацца ў цяні. Гэта гарантуе, што малапамалу справа будзе прасоўвацца дапераду. Мне моцна залежыць на тым, каб была еднасць між беларускімі актывістамі, арганізацыямі ў нас і ва ўсім свеце. Я здзіўляюся, што некаторыя нават вядомыя дзеячы не ўключыліся належным чынам у пабудову, а гэта ж агульная справа ўсяго нашага грамадства. „Ніва" нам шмат дапамагла, прапагандуючы нашу ініцыятыву таксама за мяжой. Я хацеў бы, каб рэдакцыя надалей заставалася прыхільная нам, каб працаўнікі заставаліся членамі нашага камітэта і каб вы ў кожным нумары друкавалі нумар нашага банкаўскага рахунка ды інфармавалі пра ход пабудовы.

— *Напэўна будзем рабіць тое, што і рабілі дагэтуль. Дзякуй за размову.*

Гутарыў **Мікола ВАЎРАНЮК**

---

столькі беларускае выданне, колькі менавіта польскае на беларускай мове. Мэта — не ў развіцці нацыянальных пачуццяў сярод нашага насельніцтва, а ў паступовай інтэграцыі іх з польскімі. Адсюль паляк заўсёды патрыёт, беларус жа заўсёды нацыяналіст.

Здараліся эпізоды, калі публіцыстыка ў „Ніве" вырастала да нацыянальнай. У моманты палітычных крызісаў, калі цэнзура страчвала арыенціры (1956—57 г.г., 1971 г., 1980-81 г.г.). Да канца існавання Польскай Народнай Рэспублікі агульны выраз „Нівы" меў сацыяльны характар і ўяўляла яна сабою часопіс беларускамоўным грамадзянам сялянскага паходжання з некаторай цікавасцю да беларускай нацыянальнай культуры. Прапарцыянальна з тэмпамі высыхання роднамоўя курчыўся яе тыраж і грамадскае значэнне. На зломе васьмідзесятых і дзевяностых гадоў „Ніва" апынулася на мяжы маральнага банкруцтва. Беларуская меншасць захавала сваю этнічнасць прыблізна ў дзесяці працэнтах ад папярэдняга ліку насельніцтва, пераважна распылўшыся ў гарадской дыяспары; сённячы татальная паланізацыя ахапіла і рэшту вясковых сем'яў (у самім Беластоку карыстаецца родным словам няцэлыя два працэнты беларусападобенцаў). Для аналогіі варта дадаць, што ідэнтычныя працэсы наглядаюцца ў самой Беларусі, датла абруселай.

Стаўшы перад абліччам смерці нацыі як такой і перадачы яе высокай культуры ў спадчынны перападлік Еўропы, наглядаецца нешта кшталтам вядомай медыкам з'явы ажыўленасці чалавечага арганізму перад канчальнай агоніяй. Нарэшце з'явілася ў нас нацыянальная інтэлігенцыя, надзвычай актыўная і пладавітая інтэлектуальна. Гэта яшчэ адна наша запозненасць, бо яе кніжак па-беларуску няма ўжо каму чытаць (тыраж у сто экземпляраў здаецца аптымальным). Роднай мове ў школе навучаюць — ужо! — польскамоўных дзяцей і гэтак жа польскамоўныя ў прыватным жыцці настаўнікі. Паўсюдная ідэнтыфікацыя з праваслаўем і польскай нацыянальнасцю, вядома, не перакрэслівае далейшага існавання беларускай нацыянальнай меншыні, але змяняе ёй кваліфікацыю з грамадска істотнай у неістотную, рудыментарную, рэшткавую. Сацыяльна інтэлігенцкую. Фармуецца на гэтым субстракце тып праваслаўнага паляка з прыязнымі адносінамі да беларушчыны. Нярэдка падрыхтаванага гаварыць і чытаць або і пісаць па-беларуску, што не значыць, што схільны ён рэбеларусізавацца. Такому не быць! Базай дзеля нашай культуры не будзе, але саюзнікам — непрадуктыўным — так!


*Аўтар на юбілейнай канферэнцыі.*

Адзін раз згубленая мова не вяртаецца. Ізраільскае адступленне ад гэтага правіла (іўрыт) пацвярджае правіла.

У сітуацыі гаснучай шырэйшай грамадскай патрэбнасці ў „Ніве", сацыяльны аспект у яе публікацыях — сялянскасць і мястэчковасць — перастае мець сэнс. Народ, які не хоча быць беларускім, глядзіць на „Ніву" часамі з сімпатыяй, але купляць яе не возьмецца. Купіць інтэлігент, тыя паўтарыдзве тысячы (калі палічыць абітурыентаў і студэнтаў). Справа не ў моўным бар'еры, як сведчыць цалкам падобны тыраж польскамоўнага „Часопіса". Хто самавызначыўся палякам, таму беларуская тэматыка не займальная, натуральна.

Нацыянальная структура насельніцтва Беласточчыны фінальна стабілізуецца. Наглядаючы за абвальнымі працэсамі асіміляцыі — выкрышталізоўваецца ў хуткім часе тоесамасць ужытку нацыянальнай мовы (дыялекту) з нацыянальнай свядомасцю. Вымiраюць беларускамоўныя палякі. Польскамоўныя ж беларусы — гэта непаразуменне, блытаніца нацыянальнасці з веравызнаннем. Застануцца неасімілявальнымі нацыянальна свядомыя беларусы, не больш пяці працэнтаў у супастаўленні з сямісоттысячным насельніцтвам ваяводства (30—35 тыс.). У такім абсягу асяроддзя — некалькі тысяч сем'яў — „Ніва" непазбежна пераўтворыцца ў аднназначна нацыянальны часопіс. Яе далейшае існаванне прадыктуюць не грамадскія патрэбы, мінімальныя, а выключна палітычныя інтарэсы Польскай Дзяржавы, асабліва ў кантэксце Еўрапейскай Супольнасці і ўсходняй палітыкі. Канфлікт на прадмет Супрасльскага манастыра не пакідае сумненняў у тым, што ў палітыцы няма сентыментаў і на яе вырашэнні ўплывае вызначальны ёй рахунак. Калі на гэты баланс добры скутак ад утрымлівання „Нівы", то яна дастане неабходныя сродкі. Але, калі, каторагасьці года, акажацца, што можа яе ўжо не быць, то і не будзе. Так было як быццам ад пачатку. Цяпер жа, аднак, гэта проста кідаецца ў вочы. На фоне элітнасці беларускага патрыятызму, значыць: грамадскай маргінальнасці яго.

Гэта вельмі і вельмі сумны дыягназ! Лепшая, аднак, горкая праўда ад салодкай ілюзіі.

**Сакрат Яновіч**

Фота *Міколы* ВАЎРАНЮКА

**„Каб адчуваць сябе чалавекам годным, патрэбна мне вернасць сабе. Амерыка была для мяне кашмарам, бо тады я не мог быць сабой” (Эдвард Рэдлінскі).**

# „Цуд на Грынпойнце”

Тыя беларусы, што смяртэльна абразіліся на Эдварда Рэдлінскага за апублікаваны ім у 70-х гадах (здаецца, у „Культуры”) артыкул „Jakiś”, былі б сёння, калі б яшчэ жылі, прыемна здзіўлены, убачыўшы на сцэне Беластоцкага драматычнага тэатра імя А. Вянгеркі спектакль „Cud na Greenpoincie”, у якім той жа аўтар „дае прыкурыць” на гэты раз братам-палякам.

Схільныя абражацца, як малыя дзеці, якіх заўсёды трэба гладзіць па галоўцы толькі за тое, што яны малыя, не маглі мы калісь дараваць Рэдлінскаму — што ні гавары, сябру Сакрата Яновіча, Валодзі Паўлючука, Лідкі Васілюк і майму — што вось так заўзяўся на, як сёння гавораць, „republikę kolesiów”, прозвішчы якіх пераважна канчаліся на „-ук”, а месцам іх працы быў найчасцей Ваяводскі камітэт ПАРП.

Цяжка было многім зразумець, як хлопец з беднай шматдзетнай сям'і з падбеластоцкай вёскі Фрамполь, ад якой рукой падаць да „дзекачаў” з Чараўкоў, Багданак і Дарожак (ды і Плюцічы ж усяго за ракою), мог учыніць „такое” сябрам-беларусам.

Пэўна, ужо тады, у сямідзесятых гадах, артыкулам „Jakiś” Рэдлінскі вырашыў пачаць выпраўляць гэты свет. Не ўзяў, аднак, пад увагу таго, што кожная нацыя, апынуўшыся пад пагрозай знішчэння, стараецца трымацца кучы. Дык, калі ўдумацца глыбей, то не было ўжо гэта мо такое і заганнае. Прынамсі сёння Рэдлінскаму значна цяжэй было б знайсці падобную тэму ў нашым асяроддзі.

Але ён яе і не шукае. Калі жыў у Беластоку, пераконваў усіх, што адсюль не кранецца: перастаў бы магчы пісаць. А вось жа, пераехаўшы ў Варшаву, пісаў далей, пазнаючы жыццё і людзей там. І нельга закінуць Эдку аднаго: што быў калі-небудзь няшчыры.

„Cud na Greenpoincie” быў вынікам пабыўкі пісьменніка ў Амерыцы, якая зацягнулася на 7 гадоў і...11 дзён. А збіраўся туды ўсяго на шэсць тыдняў. Найгорш, што абяцаў пры ўсіх: у Амерыцы не дакранецца да сціркі, анучы і лапаты. Казаў, што лепш нападзе і ўкрадзе. Тры разы апынуўся з рэчамі на вуліцы, без ніводнага долара. Раз узламаўся і ўкраў 300 долараў, пасля аддаў. Абрабаваў негра ў нью-йоркскім Central-парку. Забраў у яго 17 долараў. Той, праўда, на яго напаў першы. Зрэшты, на Рэдлінскага напалі ўжо на чатырнаццаты дзень пабыўкі ў Нью-Йорку. Негры ў Бронксе. Пасля, калі жыў ужо ў Грынпойнце, украў у яго грошы акцёр з Кракава, свой... За тры дні да планаванага адлёту на радзіму — укралі ўсе дакументы і грошы ў дыскатэцы ў Новым Арлеане. Давялося застацца, пазычыць, аддаваць даўгі. Быў момант, што нават выкапаў сабе нару ў Квінсе, пад чыгункай, якая вяла да Long Island. Некалькі разоў упіўся рэшткамі рассудку да непрытомнасці, каб не пайсці і легчы на чыгунку.

Жыў у нэндзы, з малых ганарараў — але з пісання. Не папрасіў палітычнага сховішча, хаця яму яго прапанавалі, не паехаў на размовы да важных палітыкаў у Вашынгтон, куды яго запрашалі. Не хацеў маніць. „Не дайся, — кажа Эдвард Рэдлінскі, — усадзіць сябе ў антыкамуністычную гармату. Кожны з вялікіх палякаў на Захадзе, з папай рымскім уключна, карыстаўся антыкамуністычнай падпоркай. Адзін Гамбровіч, можа, не...”

Амерыка была для Рэдлінскага кашмарам, у якім людзі ўсё пералічваюць на грошы: працу, талент, прыгажосць, секс, пачуцці, творчасць, вольнасць. Чалавека знішчае там вульгарная барацьба за быт. У гэтых адносінах Амерыка няшчадная, патрабуе няспыннай ігры, жалезных нерваў, жыцця ў фальшы.

Палякі ў спектаклі „Cud na Greenpoincie” пераймалі ад амерыканцаў тую найгоршую Амерыку, „ад канца”: ад тандэты, парнаграфіі, гангстэрства. Не цікавяць іх універсітэты, філармоніі, музеі. Зарабіць! Зарабіць нават на сваім земляку — і тады ты будзеш лічыцца ў грамадстве. Можна яму паднаняць нанятую ўжо кватэру, можна ашукаць яго, абакрасці. І так на Грынпойнце ніхто нікому не давярае. А можна сваім суродзічам запрапанаваць на 1—2 „нумаркі” ўласную дачушку, для якой разлажыць лішні раз ногі, абы добра заплацілі, — не абазначае роўна нічога. Божа, і ўсё гэта бачыў і спісаў у сваіх творах („Dolorado”, „Tańcowały dwa Michały”, „Szczuropolacy”, на падставе якога напісана п'еса „Cud na Greenpoincie”) Эдвард Рэдлінскі, ды мае намер пісаць далей.

Дзякуй Богу, што мне не давялося пабываць у гэтым страшным Грынпойнце. Не паказалі, калі я была ў Амерыцы. А ў Квінсе давялося гасцяваць толькі ў хаце Ані Бартуль. Паказвалі адны прыгожыя і прыемныя рэчы. Была я ў гарах і на Ніягары, у ААНе на банкеце і ў цэнтры Ракфелера ў Нью-Йорку, у галаве нью-йоркскай Статуі Свабоды і ў Белым Доме ў Вашынгтоне, у Нацыянальным музеі ў Клīўлендзе і ў Музеі тэхнікі ў Чыкага. За адзін месяц я пабывала ў дзевяці штатах.

Але менавіта можа таму, што была там усяго месяц. Госць не павінен заседжвацца даўжэй, Эдэк! І таму, калі ты ў Беластоку ўжо спытаў у мяне са здзіўленнем; „Ада, у Нью-Йорку мне сказалі, што табе Амерыка спадабалася?”, я адказала табе, што занадта брыдкіх рэчаў мне там не давялося ўбачыць.

Дзякуй табе, што сваім „Цудам” ты пашырыў маё ўяўленне аб гэтай, як ты яе называеш, страшна-цудоўнай краіне.

А, зрэшты, я ж была ў гасцях у беларусаў.

**Ада Чачуга**

## Веснавой парой

Веснавое сонца,  
Вышэй падніміся,  
Сваімі праменьмі  
Да нас усміхніся.

Сонца паднялося,  
За хмарай свяціла,  
Аж прастору нашу  
Шэра цень накрыла.

Падуй з поўдня вецер  
Цеплынёй лагодна,  
Абагрэй зямельку  
Па зіме халоднай.

Падуў вось і вецер,  
Якога чакалі,  
Ды быў ён халодны,  
Каб яго віталі.

Пайдзі дробны дожджык  
На нівы што ў глебе,  
Якія ты корміш  
Хмарамі што ў небе.

Пайшоў дождж ды з бурай,  
Вада аж шумела,  
Нівы залівала,  
Людзям сэрца млела.

Не раз нас заганіць  
Дождж, вецер і сонца  
Ў зацішную хату  
Глядзець праз ваконца.

**Ю. В-скі**

# Вербніца

*(працяг са стар. 1)*

— жылы натуральнай энергіі. Таму людзі якраз над вадой ладзілі веснавыя карагоды.

У час вербнага тыдня і Вербніцы беларусы назіралі за надвор'ем. Верылі, што калі ў гэты час ідуць маразы-вербічы, пазней не будзе запозненых маразоў, якія маглі б пашкодзіць яравай збажыне.

Вербніца запамяталася мною як свята радасці. Набліжаліся Вялікдзень, цёплае надвор'е, веснавыя гульні. Нават прысутныя ў той дзень у царкве мелі на галовах каляровыя (пераважна чырвона-зялёныя) хусткі, а пра такое адступленне нельга было нават падумаць у апошні, Вялікі тыдзень.

**Ганна Кандрацюк**

# Патока ў агні

*(працяг са стар. 1)*

ўцалела ўсяго некалькі будынкаў. Спярша людзі ўвогуле не ведалі, што рабіць. Пазней сталі закопваць рэшткі спаленай жывёлы, у паветры стаяў невыносны ад яе смурод. Гной тліўся яшчэ тыдзень–два. Частка людзей выбралася ў навакольныя вёскі — хто да сваякоў, а хто па пустых хатах. Частка стала „абжывацца” на месцы, выкапаўшы сабе зямлянкі.

У пажары загінула трое дзяцей Марыі і Юліяна Гарасімчукаў — было ім ад 4 да 10 гадоў. Юліяна забралі ў Нямеччыну на работу і ніколі адтуль не вярнуўся.

— Гэта, хіба, і лепш для яго. Бо што ён убачыў бы, калі б вярнуўся ў Патоку? Хіба смерць адну і гора.

Спаліўся ў пажары таксама Міхал Герасімчук — ветэран верасьнёўскай кампаніі, які пасля зняволенасці ў лагеры для ваеннапалонных ва Усходняй Прусіі толькі што (зімою) вярнуўся на бацькаўшчыну.

У атрадзе „Лупашкі”, які 22 мая прыйшоў спаліць Патоку, былі людзі, якія ўсю зіму 1944/45 г. у той жа Патоцы кватараваліся — яны пад адным дахам з гаспадарамі спалі, хадзілі з імі на патанцоўкі, пілі гарэлку і весяліліся.

**Аляксандр Максімюк**

*P.S. Нягледзячы на тое, што ад апісанага здарэння прайшоў ужо 51 год, усе мае суразмоўцы пажадалі захаваць ананімнасць.*

# Радзіма — Родзіна

**Частка XLVII**

Цытую далейшыя выказванні беларускага эмігранта ў Вялікабрытаніі Янкі Міхалюка.

„Я вам ужо сказаў аб тым, што ў беларусаў наогул меншая прывязанасць да вялікае радзімы, чым у іншых народаў. А гэта не таму, што мы горшыя, чым іншыя народы, а толькі таму, што іншыя чужыя народы рабілі ўсё, каб беларусам перашкодзіць быць беларусамі. А вось адносна малое айчыны, то мне здаецца, што ў нас, беларусаў, то можа нават больш прывязанасці да яе, чым у іншых народаў. Мне здаецца, што, куды б не кінуў лёс ангельца ці немца, куды б яны ні папалі, у які раён свайго краю, то ўсюды яны будуць спатыкацца з усім ангельскім ці з немецкім. А нават калі лёс кіне далёка ад роднага краю, то ўсюды яны будуць як бы адчуваць прысутнасць сваёй радзімы, свайго народу. Вось з гэтых прычын то ангелец ці немец то ён думае, ну ў гэтых шырокіх маштабах аб сваёй айчыне і сваёй нацыі. А ў выпадку беларусаў то справа гэта выглядае па-іншаму. Па-першае, то мы народ ад вякоў аселы, мы ж не ганяліся па шырокім свеце. Сядзелі ў сваіх вёсках і ўсё. А калі трэба было ехаць у горад, адлеглы на пяцьдзесят ці сто кіламетраў, то гэта ўжо была вялікая падзея і вялікая бяда. Ну, а па-другое, калі нашы людзі былі прымушаны аддаліцца ад гэтае малое айчыны, то ўсюды пападалі ў чужыну. Нават калі беларус ехаў у той горад, які знаходзіўся на тэрыторыі Беларусі, то быў гэта горад не беларускі, быў чужы. Гарады ў Беларусі былі жыдоўскімі, рускімі, польскімі, але нідзе не было вялікіх гарадоў беларускіх. Ну то бачыце, у такіх абставінах беларус, як толькі пападаў у чужое асяроддзе ў розныя там нявыгады ці беды, то ён рваўся душою да гэтае, як вы кажаце, малое радзімы. І толькі там, як піша Якуб Колас у „Новай зямлі”, беларус адпачываў душою. Вось таму мне здаецца, што ў нас, беларусаў больш чым у іншых нацыянальнасцяў у сэрцы малое айчыны і меней, чым у іншых народаў вялікае бацькаўшчыны. Ну бо і адкуль магла быць тая вялікая бацькаўшчына. То ж, вядома, што вялікая бацькаўшчына праяўляецца ў парламенце, у нацыянальнай прэсе, у нацыянальным касцёле, у нацыянальнай арміі, а ў нас, беларусаў, усяго гэтага не было. Але затое ў кожнага з нас была свая айчына, свая вёсачка, свая рэчачка, ці азярцо, сваё поле, свой лес, свая вясковая грамада і знаёмыя, сваякі, суседзі, усё тое, што вы тут назвалі малою радзімаю. Вось і таму беларус заўсёды рваўся душою да малое айчыны. Я вам скажу адкрыта, я чалавек неначытаны. Аднак тое-сёе перагледаю. То хоць бы вазьміце Коласа, асабліва яго „Новую зямлю”, то што мы там бачым? А бачым гэту малую айчыну, якая для пісьменніка з'яўляецца найпрыгажэйшаю, найлепшаю, а нават і найбольшаю на свеце.

Калі ўзяць нашу эміграцыю тут, у Англіі, то мы ў большасці мала адукаваныя. Выключэнні — гэта біскуп Часлаў і айцец Аляксандар. Яны то дзень і ноч сядзяць над кнігамі. А тое, што тут ёсць гэта бібліятэка Францішка Скарыны, то таксама заслуга Сіповіча і Надсана. Калі б іх не было, то не было б і гэтага цэнтра. Але бачыце, трэба сказаць і другое. Амаль усе беларусы ў Англіі, хаця яны і неадукаваны, пайшлі за Сіповічам, Надсанам, калі толькі пабачылі, што яны, ствараючы Беларускі цэнтр, прагнуць ратаваць беларускую душу. Яно вядома, што не ўсе беларусы іх падтрымалі. Некаторыя то пачалі гаварыць, што біскуп і айцец Аляксандар то дбаюць пра ўласную справу і хочуць усіх нас загнаць у вуню. Я вам скажу, я таксама чалавек крытычны да свету і калі ў ста працэнтах у чымсьці не пераканаюся, то ніколі яго не падтрымаю. На працягу многіх гадоў я пераканаўся, што ані біскуп, ані айцец Аляксандар не стараліся пахіснуць маёй праваслаўнасці. Апрача гэтага ніколі не імкнуліся яны да славы ці ўзбагачэння. Верце, што яны бяднейшыя чым кожны з нас. Усе беларусы ў Англіі распасліся, усе маюць дамы, нейкую там маёмасць. А што маюць Надсан і Сіповіч? Нічога. Усё тое, што тут бачыце, належыць да беларускай грамады. Вы ж толькі падумайце, біскуп замятае мятлою вуліцу, а айцец Аляксандар ужо дзесяць гадоў ходзіць у адным касцюме. От таму мы трымаемся Беларускага цэнтра і гэтых святароў, хаця мы не вуніяты”.

**Алесь Барскі**

# Позірк у мінулае

**7 красавіка**

1348 г. — заснаваны універсітэт у Празе.

1899 г. — нар. Луіс Фізер, амерыканскі хімік, вынаходца напалма.

1919 г. — Цэнтральная рада рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў у Мюнхене аб'явіла савецкую рэспубліку.

1933 г. — у Германіі звольнена з працы ўсіх яўрэяў, якія падчас І сусветнай вайны не служылі ў нямецкай арміі.

1957 г. — выйшаў першы нумар „Зоркі".

1983 г. — памерла паэтэса Ларыса Геніюш.

**8 красавіка**

1525 г. — Ордэн крыжаносцаў заменены ў Прускае княства.

1783 г. — расейская царыца Кацярына II аб'явіла анексію Крыма і другіх чарнаморскіх тэрыторый.

1872 г. — нар. Іван Блох, нямецкі дэрматолаг, заснавальнік сучаснай сексуалогіі.

1973 г. — памёр Пабла Пікасо, іспанскі мастак.

**9 красавіка**

1682 г. — Францыя анектавала тэрыторыю сённяшняй Луізіяны.

1865 г. — заканчэнне грамадзянскай вайны ў ЗША.

1933 г. — нар. Жан-Поль Бэльмонда, французскі акцёр.

1940 г. — германскія войскі занялі Данію і Нарвегію.

1963 г. — Уінстан Чэрчыль, першым пасля Лафаета (1788 г.), атрымаў ганаровае грамадзянства ЗША.

1966 г. — Ватыкан аб'явіў аб ліквідацыі Індэкса забароненых кніг.

1992 г. — албанскі парламент выбраў Салі Берыша прэзідэнтам.

**10 красавіка**

1585 г. — памёр папа Грыгорый XIII, ініцыятар грыгарыянскага календара.

1941 г. — праклямацыя незалежнасці Харватыі; дзяржаву ўзначаліў фашыст Антэ Павеліч.

1970 г. — Поль Мак-Картні пакінуў гурт „Бітлз", што абазначала распад ансамбля.

**11 красавіка**

1937 г. — памёр паэт і палітык Цішка Гартны.

1945 г. — амерыканскія войскі вызвалілі канцлагер Бухенвальд.

1979 г. — звяржэнне дыктатуры Ідзі Аміна ва Угандзе.

1992 г. — у Парыжы адкрыта парк *Euro-Disney*.

**12 красавіка**

1861 г. — пачатак грамадзянскай вайны ў ЗША.

1911 г. — французскі лётчык П'ер Прыр першым праляцеў без пасадкі з Лондана ў Парыж.

1961 г. — Юры Гагарын упершыню ў гісторыі чалавецтва пабываў у Космасе на барту касмічнага карабля „Васток-1".

1981 г. — стартаваў першы касмічны карабель шматкратнага прымянення, амерыканская *Columbia*.

1991 г. — турэцкі парламент адмяніў курдам забарону ўжывання роднай мовы.

**13 красавіка**

1896 г. — праекцыя першага фільма ў Нью-Йорку; доўжылася 30 секунд.

1960 г. — запуск першага навігацыйнага спадарожніка ў ЗША. **(Ш)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! У маёй сяброўкі, з якой я працавала ў адной установе многія гады, а цяпер яна ўжо на пенсіі, восенню мінулага года памерла мама. Хварэла яна цяжка і доўга. Калісьці, калі была здаровая, заходзіла яна да нас і любіла пасядзець, пагаварыць, параскazваць, а мы з цікавасцю яе слухалі. І няма яе ўжо ў жывых, а мне вось прысніўся такі сон.

Я на рабоце. Нейкі пісьмовы стол, я стаю каля яго. Яшчэ ў пакоі круціцца былая наша працаўніца. А на тым стале ляжыць цэлая свіная шынка. Яна печаная. Я так стаю і падскубваю яе, каштую. Звоніць тэлефон. Гэта сяброўка, дачка тае жанчыны. Кажа, што мама нас чакае ў хаце, просіць, каб прыйшлі. А мы як бы ўжо і думалі яе наведаць. Я ёй у трубку адказваю: „Добра, прыйдзем, абавязкова прыйдзем". І на гэтым канец сну. Што ён можа абазначаць?

**Марыся**

Майму ўнуку прысніўся такі сон. Лес. У тым лесе стаіць прыгожая, навапабудаваная царква, а на яе купале віднеецца ікона св. Мікалая Цудатворца. Уваходзіць ён у сярэдзіну храма, а там вельмі многа ікон. Унук стаіць і захапляецца іхняй прыгажосцю.

**Галена**

Марыся! Не хачу цябе пужаць, але ці не захварэеш ты выпадкова... А мо нехта з тваіх блізкіх недамагае?

Галена! А твайму ўнуку, лічу, прысніўся някепскі сон, хаця царква ў іншых выпадках магла б абазначаць сумную справу. Новая царква, а яшчэ ж на купале ікона Мікалая Цудатворца, прыгожыя іконы ўсярэдзіне гавораць пра будучыя поспехі твайго ўнука.

**Астрон**

# ПАРНАСІК

## Пералом вясны

Вясна, калі ты да нас завітаеш
І з зямлі снег пазбіраеш?
Таксама мароз, каб растапіўся
І сакавік у промнях ажывіўся.
Бо тоўста зямлю скавала —
Зіма нам цяпер не даравала.
Марозы былі лютыя,
Мы хадзілі цёпла абутыя.
І снегу наваліла многа,
Непраходнай стала дарога.
Бо калі пачне раставаць,
Жыццё будзе даваць.
Будзе вада і пацячэ,
Радасць вясны прынясе.
Напоўняцца вадаёмы, студні
Святам і ў будні.
Сакавік сёлета марозны
І меркаваць можна па-рознаму.
Як доўга мароз будзе трымацца
І вясне не паддавацца?
Чалавек не ў сіле гэта зрабіць,
Нават атамам можа біць —
Прыроды не зменіць на лепшую,
А хутчэй на злавешчую.
Чалавек нат сваёй не зменіць натуры,
Да Бога бяжыць, калі бура.
Не зменіць таго, што стварыў Бог,
Кланяемся да Яго святых ног.
Толькі, калі сонейка прыгрэе
Мы напэўна паспеем
Убачыць пералом вясны
І цудоўныя дні.
Прыляцяць першыя птушкі
У свае гнёзды, кармушкі.
Зямля ажывіцца і абродзіць.
А як мы сябе будзем паводзіць?
Павінны мы мець у сэрцы цяплыню
І гарачую хрысціянскую дабрыню.

**Мікалай Панфілюк**

# Благавешчанне

Звеставанне — веснавое хрысціянскае свята. У беларусаў Благавешчанне лічылася днём прыходу вясны. Спявалі вяснянкі, вадзілі карагоды. Гаспадыні пяклі з мукі „буславу лапу". Са святам было звязана шмат павер'яў і забарон, не дазвалялася працаваць: „На Благавешчанне нават птушка гнязда не ўе". Прыкметы: на Благавешчанне дождж — ураджай, а жыта — грыбное лета; снег — лета мокрае; сухое, цёплае надвор'е — лета засушлівае, а восень з прымаразкамі.

* * *

Дабравешчаннейка святое,
Пашлі сонейка залатое,
Каб зямелька адышла
Ды вясна да нас прыйшла,
Каб распусціла ветачкі,
Каб раскраснеліся кветачкі,
Каб лугі зазеляніліся,
Нашы нівачкі адзеліся.
Прыдзі, прыдзі, вясна,
Прыдзі, прыдзі, красна
К нам у таночак,
Прынясі нам збожжа,
Прынясі нам красак,
Каб нам звіць вяночак.
Едзе вясна, едзе
На залатым кані.
У зялёным саяні,
На сасе седзячы,
Сыру зямлю аручы
А смыком скародзячы.
Вязе, вязе вясна,
Вязе, вязе красна
Ясныя дзянёчкі,
Зялёныя травы,
Красныя цвяточкі
Нам на вяночкі.

**(яц)**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. ін'екцыя, 8. пахучая смала, 9. месца, праз якое праходзяць, 10. падатак хану і цару на Паволжы і ў Сібіры, 11. прадукт, 13. нямецкі археолаг, адкрыў Трою (1822—1890), 15. Муслім, вядомы азербайджанскі спявак, 16. уздым, запал, энтузіязм, 20. тупарылы кракадзіл, 22. басейн Нарвы, 23. сталіца Каракалпакіі, 27. горад на Беласточчыне, 29. вымаўленне „а" замест „о", 30. адміністрацыйная адзінка ў Манголіі, 31. кукуруза, 32. паспяховае, спрытнае, умелае (удалае), 33. горад на Украіне, 34. вага тавару без тары.

**Вертыкальна:** 1. жонка цара, 2. лёгкі шырокапалы капялюш, 4. шахматны чэмпіён свету, 5. журналістка „Нівы", 6. горнае ўзвышша, 7. шум мноства галасоў, 12. чалавек іншай веры, іншаземец, 14. каўказскі народны танец, 16. галава дзяржавы Ватыкан, 17. мэтанакіраваныя грашовыя сродкі, 18. гук ад удару, 19. геалагічная парода, адкладзеная ў нейкі перыяд, паверх, 21. чалавек, які сціпла падпарадкоўваецца законам, 24. Оскар, англійскі пісьменнік (1856—1900), 25. абмалочанае зерне, 26. чэшскі аўтамабіль, 27. цвіль, грыбок, 28. дзяржава на Аравійскім паўвостраве.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 7 нумара:**

**Гарызантальна:** каянне, кветка, граніт, эсэр, звон, функцыянер, гурт, Кіпр, гронка, кантон, разгул.

**Вертыкальна:** Картэс, негр, квіт, кардон, антыцыклон, Эрфурт, Зверкі, гуляка, прагул, Грон, кара.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лукашу Пацэвічу** і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# Вербная нядзеля

Вербная нядзеля, Вербніца — апошняя нядзеля перад Вялікаднем. Паўсюдна асвячалі ў царкве галінкі вярбы, якім надавалі магічныя ўласцівасці: выганялі імі на першы выпас жывёлу, упрыгожвалі хаты. На вербным тыдні чакаліся апошнія маразы-вербічы.

* * *

Вярба б'е — не я б'ю,
За тыдзень — Вялікдзень.
Хвора ў лес, на верас,
А здароўе ў косці.
Будзь здароў, як вада,
А расці, як вярба.
Будзь здароў на ўвесь год,
Будзь так весел, як вясна,
Будзь так моцны, як зіма.
Не будзь санлівы,
Да работы лянівы,
Не будзь завіслівы,
Але будзь здароў як вада!
Расці, як вярба!
Будзь шмыткі, як пчала!
Будзь багат, як зямля!
Ад року да року
Вярбою па боку.

**(яц)**




**„Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 421-033.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na III kwartał 1996 r. upływa 5 czerwca 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**Самы кароткі курс гісторыі, альбо**

***восем пунктаў эпохі***

**(том I)**

1. Індустрыялізацыя.
2. Калектывізацыя.
3. Электрыфікацыя.
4. Мабілізацыя.
5. Хімізацыя.
6. Радыяцыя.
7. Прыватызацыя.
8. Рэанімацыя.

**Павел ШАЎЧУК**

### *Сентэнцыі*

Хто шэпча ў вуха, той не глядзіць у вочы.

* * *

Ад сонца не схаваешся ў сваім цяні.

* * *

На яве спіць той, хто жыць не ўмее.

**Барыс РУСКО**

# Ніўка



*Мал. Алега ПАПОВА*

## Смех у санаторыі або „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Сямейная вячэра:

— Вельмі ж смачныя сёння грыбы! Адкуль ты ўзяла рэцэпт?

— З крымінальнага рамана.

* * *

— Дзе вада найтаннейшая?

— У прамовах палітыкаў.

— А найдаражэйшая?

— У паляндвіцы і шынцы.

* * *

На паліцыю прыбягае заплаканая жанчына, акружаная грамадкаю дзяцей:

— Шукайце майго мужа!

— Супакойцеся; скажыце, як называецца і калі прапаў.

— Называецца Мікалай і прапаў сёння.

— Калі гэта сталася сёння, дык няма ніякіх прычын да хвалявання.

— Як гэта няма! Сёння атрымаў на працы зарплату.

* * *

Бацькі гутараць пра сваіх сыноў:

— Мой сын піша такія мудрыя лісты, што за кожным разам мушу карыстацца энцыклапедыяй.

— А мой піша такія лісты, што за кожным разам мушу карыстацца ашчаднай кніжкай.

* * *

Пасля прабуджэння з наркозу да пацыента прыходзіць узрадаваны лекар:

— Маю для вас дзве весткі: добрую і дрэнную. Ад якой пачаць?

— Ад дрэннай.

— Праз памылку ампутаваў я вам здаровую нагу.

— Божа мой! А добрую?

— Няма чаго хвалявацца: жонка ўжо знайшла купца на чаравікі.

* * *

Да пані Кавальскай у адсутнасць мужа прыходзіць яго калега. Падчас гутаркі прапануе ёй, каб аддалася за мільён. Яна згаджаецца.

Пасля працы вяртаецца муж і ўжо ад парога пытаецца:

— Ці быў тут раніцай мой калега?

— Ну, быў, — гаворыць збянтэжаная жонка.

— А ці аддаў той мільён, што быў мне вінаваты?

## Рынак патрабуе ветлівасці

Усе цяпер пераходзяць да рынку. Але ці кожны можа дасягнуць поспеху ў рынкавай эканоміцы? Зразумела, што перамогуць самыя таленавітыя, самыя спрытныя, упэўненыя ў сваіх сілах.

Вось, напрыклад, возьмем гандаль. У капіталістычных краінах, калі вы зойдзеце ў магазін, вас сустрэнуць цэлым снопамззяння з вачэй. Усмешкі, дабразычлівасць, паслужлівасць. А ў нас што?

Вось зайшлі вы ў магазін. А на вас прадавец адразу ж пагледае, як на патэнцыяльнага злодзея, які прагне вынесці нешта пад палой. І не заплаціць за тавар.

Вы самі падлізліва ўсміхаецеся прадаўцу, каб заваяваць яго прыхільнасць. Стаіце ля прылаўка ў позе прасіцеля і чакаеце, пакуль на вас хто-небудзь зверне ўвагу. Але вас упарта не хочуць заўважаць.

Тады вы з маленнем, не вельмі гучна, каб не абразіць сваім зваротам прадаўшчыцу, не раззлаваць яе, просіце:

— Дзяўчына! Пакажыце мне вунь тую каробачку!

І з заміраннем сэрца чакаеце, калі яна вам падасць яе. „Дзяўчына", кінуўшы на вас знішчальны позірк, падае вам каробачку. І адразу ж адварочваецца.

— Не, не гэтую, — гаворыце вы ёй. — А вунь тую, што стаіць трошкі вышэй.

— Так бы адразу сказаў. А то дурыць мне галаву.

Са спапяляючым позіркам яна падае вам другую каробачку. І, крый Божа, калі вы не купіце яе, то будзеце мець магчымасць яшчэ выслухаць наўздагон:

— Ходзяць тут усялякія... Прыслугоўвай яму. А ён яшчэ і носам круціць! Ну і народ!

Але гэта было раней. Яшчэ ў гады застою. Цяпер жа пры рынкавых адносінах такіх прадаўцоў Вы не знойдзеце. Цяпер пры рэфармаваных цэнах, пры рынкавых адносінах трэба паляваць на пакупнікоў, прываблівасць іх у магазіны. А таму, думаем, не лішнім будуць нашы парады для прадаўцоў новага пакалення, новай, так сказаць, генерацыі.

Па-першае, ніколі не адварочвайцеся ад пакупніка. Нават, калі ад яго нясе такім духам, што вас адразу ж цягне закусваць. Старайцеся дагадзіць яму, якім бы ён не быў капрызным пры выбары тавару... Працуйце на яго з усёй энергіяй. І майце на ўвазе, што ў будучым гэта будзе належным чынам ацэнена. І абавязкова ўсміхайцеся, бо ён можа вас западозрыць у нядобразычлівасці. І тавар павінны падбіраць па смаку.

Вось, скажам, пакупнік просіць у вас туалетную паперу. Цяпер нават газеты ўжо няма на чым друкаваць, а яму — туалетную паперу падавай!

Але ўсё роўна да пакупніка трэба звярнуцца ласкава, пачціва. Дык вы і растлумачце яму:

— У нас пакуль што няма туалетнай паперы. Але затое ёсць вельмі добрая наждачная папера. Дык бярыце, калі ласка!

І пры гэтым прыветліва ўсміхайцеся. Або, скажам, прыходзіць да вас у магазін жанчына і пытаецца, ці ёсць у вас добрыя жаночыя боцікі. На гэта правакацыйнае пытанне ў дарынкавыя часы вы яе туды б адправілі, што яна б больш і носа сюды не паказала б. А цяпер гэтага рабіць нельга. Ласкава ўсміхнуўшыся вы кажаце наіўнай той жанчыне:

— Жаночыя боцікі пакуль што шыюць у Паўднёвай Карэі для нас. Хутка будуць імі завалены ўсе крамы. Але гэта ўсё ж капіталістычны тавар. Адсталы. А ў нас у наяўнасці ёсць добры айчынны абутак.

Пры гэтых словах падайце гэтай жанчыне галёшы. Пакупніца можа капрызна скрывіцца, маўляў, гэта не той тавар. Тут трэба яе апярэдзіць і сказаць:

— Вы не ведаеце, якія гэта цудоўныя галёшы! Якія ж яны моцныя і надзейныя. Нядаўна адна жанчына выпадкова ўпала з дзевятага паверха. І на ёй былі такія вось галёшы. Звычайна ж, жанчына разбілася ўшчэнт. А галёшам хоць бы што. Вось што значыць наша якасць прадукцыі.

Калі навучыцеся так рэкламаваць тавар, то ніякая рынкавая эканоміка не будзе пагражаць вам банкруцтвам. Будучыня за вамі.

**Васіль КРАЎЧУК**

*Пераклаў Валерый БАБЕЙ*

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка, я вучуся ў сёмым класе. Мне цяпер 14 гадоў і ў мяне яшчэ ніколі не было хлопца. Ужо мае сяброўкі хваліліся „сваімі" хлопцамі ў другім класе, казалі, што нават цалаваліся з імі, а мне дагэтуль ніхто не спадабаўся так, каб хацелася з ім хадзіць.

Мушу табе нешта сказаць пацішку. Я ўжо нават баялася, што ў мяне можа не ўсё ў парадку з маёй псіхафізічнай сістэмай, спознены эмацыянальныя рэакцыі. На перапынках, калі многія мае сяброўкі прахаджваліся са сваімі хлопцамі, ці на Дзень жанчын, калі ім прыносілі кветкі, або на экскурсіях, калі ім падносілі хлопцы ранцы, мне было вельмі сумна, што ў мяне такога хлопца няма.

І раптам я, зусім неспадзявана для сябе, закахалася. У наш клас прыйшоў „новы". З Варшавы! Высокі, загарэлы, з прыгожым тварам. Усе дзяўчаты проста ашалелі. Нават тыя, што мелі хлопцаў, сталі да іх абыякавымі. „Новы" запаланіў іх сэрцы. На перапынках кожная старалася стаць каля яго, перакінуцца з ім хоць двума словамі. Удавалася гэта найадважнейшым. Я саромелася падысці да яго і пачаць гаворку, а ён сам да ніводнай з нас не падыходзіў. Бачыў, што падабаецца дзяўчатам і выкарыстоўваў гэта. Кожная старалася яму ўслужыць, нешта падказаць. Яго суседка па парце цягала ў ранцы ўсе кніжкі ў школу, а ён хадзіў лёгенька, закінуўшы на плячо свой амаль пусты рэчмяшок. Навошта яму было цягаць такія цяжары, калі меў добрую сяброўку...

Гледзячы на ўсё гэта, я вырашыла, што нічога не будзе з майго кахання, і не то што, каб зусім адвярнулася ад яго, але проста перастала звяртаць на яго ўвагу. „Cześć!" — і ўсё. Адносілася я да яго, як да кожнага хлопца з нашага класа — не лепш і не горш. Бог адно ведае, што рабілася ў маім сэрцы. Але ж на ражон я не збіралася лезці. Не хапала яшчэ, каб і мяне выставіў на пасмешышча, як рабіў ён гэта з іншымі дзяўчатамі. Столькі часу, падумала я, не было ў мяне хлопца, дык не трэба і гэтага. Не буду стаяць да яго ў чарзе!

Убачыўшы, што я яго трактую зусім звычайна, пачаў штораз часцей зачапляць мяне. Зразумей, што калі б ён падышоў да мяне і сказаў, што я файная дзяўчына, каб запрасіў на дыскатэку, дык я б магла ўсё хутчэй зразумець. А ён на перапынку нешта шэпча сябрам, паказваючы на мяне, часамі робіць нейкія заўвагі ўголас, задзірае мне спаднічку.

Калісь паехалі мы на экскурсію ў Супрасль. Стаім на мосце, глядзім, як цячэ вада ў рацэ, несучы апаўшае лісце (была ўжо даволі позняя восень). Неспадзявана „новы" падышоў да мяне ззаду, лёгка дакрануўся да майго джынсавага капялюшыка, а той так і паляцеў у раку. Капялюшык паплыў з хуткім нуртам. Хто б яго там дагнаў, калі б нават і хацеў ускочыць у халодную ваду... Мне было прыкра. Што сказаць маме? Ды і наогул, ці так павінен рабіць сябра з класа... Я не ведала, што і думаць, а сяброўкі менавіта тады сцвердзілі, што „новы" да мяне заляцаецца.

А пасля быў і другі інцыдэнт. Я пайшла з сяброўкай у горад і вярнулася дахаты каля восьмай вечара. А мама кажа: „Прыходзіў твой „новы" і прасіў, каб ты падышла да школы а шостай!" Я глянула на гадзіннік: дзве ж гадзіны, пэўна, мяне не чакаў, дык распранулася і, павячэраўшы, пайшла спаць. Дзякуй Богу, што вярнулася так позна і не прыйшла на тую „сустрэчу", бо на наступны дзень высветлілася, што ён выклікаў такім чынам мінімум дзесяць дзяўчат з нашага класа, якія сустрэліся каля школы. Ён аднак не прыйшоў. Зусім нейкі дурань! Як ты думаеш, Сэрцайка, ці такое штосьці можна рабіць з добрым намерам?!

**АГАТА**

Агатка! Я думаю, што гэта так званыя цялячыя залёты. „Новы" ўбачыў, што ты на яго не звяртаеш увагі і хоча як-небудзь, любымі сродкамі звярнуць на сябе ўвагу. Ага, скіну ёй капялюшык — няхай памучыцца хоць з-за яго (а мо і не хацеў, каб капялюшык уваліўся ў ваду, а толькі збіраўся такім чынам зачапіць цябе). Альбо: склічу ўсіх дзяўчат, што жывуць паблізу, да школы. Няхай збяруцца там усе, і яна ўбачыць, колькі ў мяне магчымасцей. А табе, бачыш, лёс спрыяў, і не змагла ты яму даць сатысфакцыю.

Ну, але гэта толькі пачаткі. Усё на добрай дарозе. Пастарайся быць цвёрдай па выбранаму табою курсу і не кідайся адразу яму ў абдымкі.

**СЭРЦАЙКА**